


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 31 (3090) Год LX Беласток, 2 жніўня 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Падляшская актава культур

Сёлетні, восьмы выпуск Міжнароднага фестывалю музыкі, мастацтва і фальклору «Падляшская актава культур» асабліва была папярэджана падзеямі на некалькі дзён да традыцыйнага параду адкрыцця ўсіх каманд. Можна было прынянць удзел у шоў адзення ў беларускапалескім дызайне кампаніі «Xoroshe» Магдаліны Петрук і прычосак, натхнёных фальклорам «Этна мода», выставе бытавых прадметаў «Пакахай фальклор», на якой таксама хапала беларускіх элементаў, або вывучэнні народных танцаў. У рамках фестывалю ў гэтым годзе быў толькі адзін ансамбль з Беларусі — «Лялечкі» з Абухава Гродзенскай вобласці. На жаль, з чыстым беларускім фальклорам яго выступ меў мала агульнага.

Актава арганізавана падначаленым Маршалкоўскай управе Падляшскага ваяводства Ваяводскім асяродкам анімацыі культуры і з задумы яго былога дырэктара Анджэя Дырдала, надалей старшыні Міжнароднай мастацкай рады фестывалю. На гэты раз дваццаць пяць калектываў з трынаццаці краін (найдалей з Індыі) адрэкамендавалася ў дзевятнаццаці мясцовасцях ваяводства. Спецыяльная камісія вылучыла выканаўцаў з васьмідзесяці заяўленых калектываў. У ходзе прэс-канферэнцыі, якая папярэднічала Актаве, падляшскі маршалак Мечыслаў Башко пераконваў:

— Гэта культурная падзея мае вялікае значэнне для нашага ваяводства, паколькі падтрымлівае яго мультыкультуралізм.

Адказны за культуру віцэ-маршалак Мацей Жыўна дадаў, спасылаючыся на яе восьмы выпуск:

— Калі адвернем гэтую «васьмёрку», атрымаецца знак бесканечнасці, і мы хочам, каб гэты мультыкультуралізм быў роўны бясконцасці.

А ў гэтым годзе Актаву ў Беластоку (21 ліпеня) адкрыў парад груп, якія прайшлі са сцягамі сваіх краін ад плошчы каля каталіцкай кафедры на плошчу перад ратушай, дзе на працягу шасці дзён натоўпы гледачоў маглі любавацца іх выступамі на адмыслова збудаванай сцэне. У рамках спадарожных мерапрыемстваў некалькі дзён да Актавы ў гэтым месцы сваю калекцыю прадставіла Магдаліна Петрук. На спецыяльна падрыхтаваным праменадзе мадэлі ў стылізаваных на народных прычосках з'явіліся ў арыгінальных кашулях і спадніцах. У размове з «Нівай» Магдаліна Петрук сказала пра прэзентацыю:


Калекцыя Магдаліны Петрук

— Я паказала адзін помнік — арыгінальную сарочку, спецыяльна вышытую для мяне жанчынай з Лельчыцкага раёна ў Беларусі. Жанчыны ходзяць там у амаль ідэнтычных. Прадставіла таксама сукенкі, вышытыя ўжо ў Беластоку, натхнёныя вышыўкай беларускага Палесся і выцінанкамі. Народныя матывы, якія тут былі, заўсёды стараюся перанесці на сучасны грунт. Этна зараз вельмі моднае, асабліва выкарыстоўваюцца ўсходнеславянскія матывы. Імі карыстаюцца найбуйнейшыя сусветныя дызайнеры, як Valentino.

Некаторыя з аўтарскай калекцыі адзення і аксесуараў Магдаліны Петрук можна ўбачыць таксама ў галерэі ВААК, дзе адкрылася выстава, прысвечаная прыкладному мастацтву на Падляшшы. Сярод твораў трыццаці мастакоў, побач, між іншым, круглага дывана зробленага на аснове ловіцкай выцінанкі па праекце Дароты Банашак (дызайнерку Дывановай фабрыкі «Agnella»), ровар у стылізацыі зачэрпнутай з дызайну двухаснoўнага дывана Адама Здановіча ці фатэляў, абабітых у плыні перапрацоўкі з выкарыстаннем кантрастных каляровых спалучэнняў па ідэі Малгажаты Вараксы, былі таксама прадметы адзення, цацкі, ювелірныя вырабы і ўнікальныя прадметы, зробленыя традыцыйным метадам валяння Даротай Сульжык. Непадалёк ад іх можна паглядзець тут сумачку, пастаўленую тут як рэкламны гаджэт Падляшскай маршалкоўскай управы аўтарства Маргарыты Дмітрук і беларускі вясельны набор (запрашэнні і візітоўкі ў народным стылі) аўтарства Таццяны Сулімы з Гродна. Натхненнем для вясельнага набору былі беларускія ручнікі. Наведвальнікі падчас цырымоніі адкрыцця таксама мелі магчымасць паглядзець і нават узяць асобнікі ўжо другога выдання мастацкай кнігі для дзяцей на падляшскім дыялекце з ваколіц Дубровы-Беластоцкай і Саколкі «Po prostu... od A do Z» Монікі Гадлеўскай.

Згодна з выбарам Міжнароднай мастацкай рады на чале з Анджэем Дырдалам, адзіным калектывам з Беларусі, выступаючым сёлета ў рамках Актавы, была дзіцячая група «Лялечкі», якія працуюць пры доме культуры ў мясцовасці Абухава. Прыняты яны былі горача ў першы дзень фестывалю ў Беластоку, а праз некалькі дзён на гарадоцкай «Сяброўскай бяседзе» і ў Заблудаве. І хоць падчас інаўгурацыйнага выступлення на фестывалі на прыратушнай сцэне публіка не шкадавала апладысментаў старанна падрыхтаваным у харэаграфічным плане дзецям, многія гледачы задаваліся пытаннем, чым гэты паказ быў звязаны з беларускім народным мастацтвам. Паказ «Лялечак» быў падзелены на некалькі частак, пераплеценых імпазантна выкананымі песнямі пяці бандурыстак украінскага калектыву «Амабіліс», які дзейнічае пры Нацыянальнай акадэміі музыкі імя Міколы Лысенкі ў Львове, быў у значнай ступені непаразуменнем. У большасці паказаныя сцэнкі не адпавядалі формуле Актавы, нават калі тая так шырока трактуе народную творчасць як сёлета (напрыклад, калектыў Гавайскага танца «Гуля»). Дзеці з задзіўлячай шчырасцю паказалі харэаграфічныя эцюды, падрыхтаваныя, здаецца, для іншага мерапрыемства: пра пчолак, яблычкі чарвячкі, і ўжо ўсмешкі шкадавання выклікала харэаграфія да рытмаў і кас-

працяг ☞ 2


Татарскі калектыў «Бунчук» з Беласточчыны


Гарадзенскія «Лялечкі» перад выхадам на сцэну



1 ☞працяг

# Падляшская актава культур

цюмаў прама з карнавалу ў Рыо-дэ-Жанейра. Толькі ў апошніх дзвюх частках, і асабліва ў апошняй, была спасылка на беларускія традыцыі і звычаі, у тым ліку праз рэквізіты і касцюмы, якіх было многа; дзеці ў прамежках ледзь паспявалі пераапранацца. Паказалася гэта ў харэаграфічным ладзе, хоць часам і сюды ўдзіраліся эстрадныя амбіцыі апекуноў ансамбля, і нават тут больш са спасылкай на расійскую, а не беларускую танцавальную спадчыну, што скрыгатала асабліва ў кантэксце выступаючага адразу пасля «Лялечак» і «Амабіліса» надзвычай прафесійнага, сапраўды фальклорнага калектыву з Літвы — «Lietuva» ці іншых груп, якія прадстаўлялі сябе ў першыя дні пасля іх, напрыклад, з Арменіі, Македоніі, Балгарыі, Малдовы, Славакіі, Латвіі, Украіны і Польшчы, як быдгашчскія «Płomienie». Бо на нішто не здаваліся выступы ў рамках «Лялечак» юных вакалістак, удараючых у песнях, галоўным чынам, у беларуска-патрыятычную ноту. Мікола Сергіенка, культурны аніматар родам з Украіны, пражываючы ў Краснадары ў Расіі, член Міжнароднай мастацкай рады фестывалю, назіраючы выступы «Лялечак», спытаўся ў «Нівы» рытарычна:

— Ну, ці гэта фальклор? Мне здавалася, што, асабліва тут, у Беластоку, на Падляшшы, дзе так многа беларускай меншасці, ад беларускага калектыву чакаецца ў першую чаргу паказання беларускай культуры ў поўным яе выданні.

Усваю чаргу сяброўка рады, прафесар каледжа пры Акадэміі музыкі ў Мінску Яўгенія Гарбунова прызналася:

— «Лялечкі» з'яўляюцца групай адносна добра вядомай і цэненай у Беларусі. Маюць вельмі багаты рэпертуар. Чаму яны выбралі якраз гэтую частку, я не ведаю.

Анджэй Дырдал, у якога мы спыталіся, чаму толькі адна каманда з Беларусі выступіла ў гэтым годзе на Актаве, сказаў:

— Проста калектывы з Беларусі не заяўляюцца. У мінулым годзе быў выпадак, што адзін калектыў не прыехаў, хаця ўсё было дамоўлена, і нават не папярэдзілі нас. Таксама з прыездам «Лялечак» у нас былі праблемы. Яны заявіліся, а потым паведамілі, што ў іх няма грошай, і не прыедуць. Такім чынам, каб яны былі ў стане дабрацца і не было сітуацыі, што нішто з Беларусі не будзе, мы адправілі



з ВААК у Беларусь аўтобус і прывезлі іх. Аказваецца, што там ёсць сур'ёзныя праблемы па фінансавых пытаннях. Мы адкрытыя і хочам, каб добрыя, «расавыя» гурты з Беларусі прыязджалі. У гэтым годзе з Беларусі на Актаву, апрача «Лялечак», заявіўся толькі адзін калектыў, але ён быў у ацэнцы Рады вельмі слабы. Пастараемся знайсці нейкі спосаб, каб калектываў з Беларусі было больш.

Пасля выступлення мастацкі кіраўнік «Лялечак» Надзея Урукіна расказала нам пра гурт:

— Я не ведаю, чаму ў праграме гэтага фестывалю напісалі і сказалі са сцэны, што наш калектыў працуе 25 гадоў. Мы існуем ужо 38 гадоў. Працуе ў ёй больш за шэсцьдзесят дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў. Калектыў шматразовы пераможца міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў. Двойчы ўдастоены яму грант ад прэзідэнцкага фонду падтрымкі таленавітай моладзі. Сардэчна запрашаем у калектыў нашых сельскіх дзяцей без адбору, кожнае ахвотнае. Найбольш важным крытэрыем для прыёму з'яўляецца жаданне працаваць у калектыве. Заняткі вядуцца ў чатырох групах: падрыхтоўчая, малодшая, сярэдняя і старэйшая. Малодшыя наведваюць заняткі два разы на тыдзень, старэйшыя — тры. Перад выступленнямі рэпецыруем па чатыры-пяць разоў на тыдзень. Самі апрацоўваем нашы танцы. Кожны з нумароў, паказаных намі, мае сваю тэму. Дапамагае мне мая дачка, харэограф Таццяна Урбановіч, а песні, якія тут заспявалі нашы дзяўчаты, нашы народныя, толькі адна з рэпертуару Ксеніі Сітнік (беларускай пераможцы Еўрабачання для дзяцей з 2005 года — М. Х.).

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



# Вар'яцтва

Некалі вялікі Альберт Эйнштэйн сказаў, што сапраўднае вар'яцтва, гэта калі рабіць увесь час адно і тое ж, і пры гэтым спадзявацца атрымаць розныя вынікі ад сваёй дзейнасці. Здавалася б, што гэта зразумела і без выказвання вядомага навукоўца. Але ж не. Не туды тое. Каб было так усё проста, то геніяльны аўтар тэорыі адноснасці не губляў бы часу і паперы, каб напісаць на першы погляд такое відавочнае сцвярджэнне. Аказваецца, не ўсім гэтая простая ісціна даходзіць да мазгоў з першага разу. Ну, а некаторым не даходзіць ніколі.

За прыкладамі далёка хадзіць не трэба. Дастаткова проста заставацца ў Беларусі і паўглядацца на ўсё, што тут адбываецца. Пра ўладу ўжо і гаварыць не хочацца. Тое, што яна дваццаць год з дня ў дзень робіць адно і тое ж, спадзяючыся атрымаць розныя вынікі, вядома ўсім, як і тое, што вынікі стабільна аднолькавыя. І гэта прыводзіць да простай высновы, што яна, улада, і не хоча ніякіх іншых вынікаў. Яе задавальняюць гэтыя вынікі, што ёсць зараз. Яна проста дэкларуе, што вынік шукаецца іншы. Дэкларуе не нам, а тым, хто дае крэдыты і пазыкі вось пад гэтыя галаслоўныя дэкларацыі пра змены. Яна так заўсёды рабіла. Такая ў нас нацыянальная забава — дэкларавань не тое, што будзеш рабіць, а тое, што хочуць пачуць. Так весялей. І больш прыбыткова. Нашмат больш. А насамрэч улада непакоіцца толькі пра тое, каб ён, вынік, заставаўся ранейшым і быў нязменным як мага даўжэй. Зрэшты, гэта даволі лагічна. Галоўная задача ўлады — захаваць уладу. Тут усё проста, даходліва і зразумела.

Значна больш складана зразумець тыя сілы ад апазіцыі, якія дэкларуюць, што змагаюцца за ўладу, але выбіраюць для гэтага той самы сцэнарый, робяць тыя самыя дзеянні, якія ўжо неадноўчы прыводзілі да поўнага правалу іх намаганняў. Так, так. Я пра выбары. Пра тыя самыя выбары, на якія і ўлада, і яе супраціўнікі ідуць праверанымі старым сцэнарыем, што непазбежна прывядзе да гэтакіх жа правераных і старых вынікаў. Тут і да бабкі хадзіць не трэба. І калі ўладу старыя вынікі выбараў цалкам задавальняюць і ў адсутнасці абдуманых ды лагічных дзеянняў яе не западозрыш, то дзеяннім яе апанентаў лепшага вызначэння, чым выказаўся для падобных выпадкаў Альберт Эйнштэйн, і не прыдумаеш.

Гэта жа яшчэ з пачатковых класаў, з першых урокаў малявання ўсе ведаюць, што калі перамяшаць, прыкладам, сінюю і жоўтую фарбу паміж сабой у прапорцыі 50 на 50, то атрымаецца зялёны колер. І колькі б разоў, ці тысяч разоў мы не паўтаралі б гэтае дзеянне, колер будзе атрымлівацца зялёны. З разу ў раз адзін і той жа. Спадзявацца на тое, што на нейкі стомільённы раз колер атрымаецца, прыкладам, бел-чырвона-белы, паводле Эйнштэйна называецца вар'яцтвам. Каб атрымаць бел-чырвона-белы вынік, трэба ад пачатку памяняць усё. Трэба ўзяць белую і чырвоную фарбу ў прапорцыі два да аднаго, і не змешваць іх, а акуратна намаляваць дзве белыя і адну чырвоную палоскі. Гаворачы прасцей, дзеянні падганяюцца пад жаданы вынік.

Але ж не. Дзеянні застаюцца старымі, апрабаванымі, з даўно вядомымі вынікамі: выйгрышнымі для ўлады і пройгрышнымі для апазіцыйных кандыдатаў. Бо ўсё застаецца па старому, пачынаючы ад заканадаўства, асобы старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі, і канчаючы тымі ж самымі камісіямі. Далей за камісіі ўжо і разважаць няма пра што. З усіх змен кідаецца ў вочы толькі адна. І на гэтую змену пайшла не ўлада, а акурат наадварот. Гэта апазіцыйныя кандыдаты больш не заклікаюць людзей на плошчу. Ну, то лагічна меркаваць, што на плошчу людзі і не пойдуць. А пойдуць на выбарчыя ўчасткі, куды іх заклікае і ўлада, і апазіцыя.

У выніку, зыходзячы з такой змены ў дзеяннях, мы можам атрымаць і невялічкую змену ў выніку, а менавіта легалізаваны рэжым. Той самы, які і быў два апошніх дзесяцігоддзі, толькі легалізаваны. І ўсе яго рашэнні з кропкі гледжання міжнародных стасункаў таксама набудуць легалізаваны характар. У тым ліку, прыкладам, і рашэнне ўвайсці Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі цалкам або часткамі, калі такое рашэнне магчымае ў прынцыпе. А мы ж то ведаем, што немажлівага ў прынцыпе то і не бывае.

Віктар САЗОНАЎ



Вачыма еўрапейца

# «Заслоны» ў музеі з верасня

Галоўная праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства вырашыла перадаць Падляшскаму музею ў Беластоку два двухбаковыя тэатральныя праспекты (элемент тэатральных дэкарацый, якія з'яўляюцца сцэнічным фонам — запаўняючым гарызонт сцэны, які, як правіла, называюць заднікамі) намаляваныя вядомым беларускім мастаком першай паловы XX стагоддзя Язэпам Драздовічам (1888-1954). Двойчы я ў гэтай рубрыцы пісаў пра размову аб гэтых планах. Высветлілася, што дзякуючы рашэнню ГП БГКТ і папярэдняй дамоўленасці паміж яго старшынёй Янам Сычэўскім і дырэктарам Падляшскага музея Анджэем Ляхоўскім, перадача здзейсніцца ў верасні. У канчатковым рахунку заднікі будуць афіцыйна перададзены і больш не будуць ляжаць, нішчэючы, на гарышчы Таварыства. Затым будуць яны падданы спецыялізаванай кансервацыі і стануць агульнадаступнымі. Не выключана, што будуць прадстаўлены таксама ў Беларусі, дзе памяць аб Язэпе Драздовічу культывуецца (у цэнтральным рэгіёне Мінска стаіць помнік яму), хоць у бягучым успрыняцці ён крыху забыты, а ў Польшчы невядомы наогул, нават многім спецыялістам па мастацтве. Я падумаў, што ў сувязі з планаванай перадачай заднікаў, варта нагадаць крыху больш падрабязнай інфармацыі аб іх гісторыі. Кожны з бакоў праспектаў-заднікаў гэта свайго роду твор мастацтва сам па сабе. На першым намаляваная беларуска вёска з аднаго боку і пейзаж з бярозамі на другім. Гэтая праца мае памеры 440 на 225 сантыметраў. На другім можна ўбачыць замак (верагодна, у Міры) і пейзаж з елкамі. Гэты мае памеры 400 на 270 сантыметраў. Нагадаю, што абодва былі створаны ў 1933 годзе, калі аўтар прабываў у Беластоку па запрашэнні Беластоцкага аддзела Таварыства беларускай школы, які заснаваны быў у 1927 годзе і за сем гадоў свайго існавання паставіў 167 аматарскіх спектакляў розных відаў. Драматычная секцыя таварыства мела трынаццаць пастаянных самадзейных артыстаў (харавая для параўнання — трыццаць восем). Як вынікае са справаздачы, апублікаванай у «Беларускім календары» ў 1998 годзе Уладзімірам Юзвюком, памерлым ужо былым сакратаром ГП БГКТ, якраз у 1933 г. ТБШ вырашыла даручыць Язэпу Драздовічу падрыхтоўку дэкарацый на рыхтаваны гала-канцэрт на сцэне ў зале адной з яўрэйскіх арганізацый па вуліцы Кілінскага. Замест на паперы, мастак вырашыў зрабіць гэта на тоўстым палатне, значна больш даўгавечным. Мабыць потым — нягледзячы на праблемы ТБШ каб размежавацца ўжо за першую працу мастака — Язэп Драздовіч сам па сабе маляваў чарговыя палотны. Першыя заднікі — як вынікае з размоў сабраных Уладзімірам Юзвюком, меў ён маляваць у двары дамоў вядомых беларускіх дзеячаў Беласточчыны Кастуся Сідаровіча і Піліпа Кізевіча.



Анджэй Ляхоўскі (злева) і Ян Сычэўскі над праспектам-заднікам

Без сумневу, верасьнёвая перадача беластоцкіх твораў Язэпа Драздовіча і пасля абнаўлення іх публічны паказ будуць нагодай не толькі для больш падрабязнагаі глыбокага азведання іх гісторыі, але і даваеннага беларускага тэатра ў Беластоку ў цэлым, у тым ліку, напрыклад, дзейнасці, якую вёў тут Беларускі тэатральны кааператыў «Полымя» (1937-1939). Калі казаць пра мультыкультурныя карані Беластока, дык матывы звязаныя з дзеяннем у цяперашняй сталіцы Падляшша ТБШ ці «Полымя» з'яўляюцца гэтага доказамі, на жаль, непрысутнымі ў агульнабеластоцкай свядомасці, а вынікі творчага прабывання ў ёй Язэпа Драздовіча — рэчыўнымі доказамі гэтага.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ


■ «Белы птах» з Мінска (кіраўнік Вольга Жышкевіч)

# Беларускі фэст у Новым Беразове

Падчас адкрыцця адрамантаванай святліцы ў Новым Беразове выступалі ў ёй беларускія калектывы, але беларускі фэст пад адкрытым небам арганізаваўся ў гэтай вёсцы даўно. 12 ліпеня, калі ў нядзелю адбывалася святкаванне ў гонар апосталаў Пятра і Паўла, на прышкольнай пляцоўцы ў Беразове сабралася многа людзей, каб паслухаць беларускія песні і музыку падчас беларускага фэсту, які арганізавалі Галоўнае праўленне БГКТ і войт Гайнаўскай гміны. Падчас фэсту можна было падысці да лекара і медсястры ды праверыць сваё здароўе, аддаць кроў для патрабуючых, а ў іншым месцы купіць сувенір.

На колькасці жыхароў вёска Новае Беразова займае ў Гайнаўскай гміне другое або трэцяе месца і першае — па колькасці помнікаў сакральнага будаўніцтва. На тэрыторыі вёскі і яе палёў стаяць дзве драўляныя і адна мураваныя цэрквы, мураваная і драўляная часоўні. Дзейнічае вясковы асяродак здароўя і кааператыўны магазін. Гадуюць у Беразове звыш ста пяцідзесяці кароў, многа цялят і некалькі тысяч свіней у год. Спроба павялічыць свінагадоўлю выклікала пратэст мясцовага насельніцтва, якое вымушана ўдыхаць смурод ад вялікай свінафермы. Калі ў канцы чэрвеня аказалася, што войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч дала адмоўную ацэнку праекту будовы вялікай новай свінафермы, жыхары Беразова абрадаваліся такому рашэнню. У мінулым жыхары Беразова не пратэставалі, бо яе ўласнік завяраў, што ад свінарніка не будзе вялікага смуроду. Атрымалася інакш і цяпер жыхары Беразова вымушаны былі пратэставаць, аказалася — паспяхова. Людзі з Беразова пратэставалі таксама супраць будовы ветравой электрастанцыі паміж Новым Беразовам і Старым Беразовам. У выніку рэалізацыя гэтай інвестыцыі таксама спынена. Зараз у Беразове жыве штораз больш інтэлігенцыі. Селяцца лекары, працаўнікі гайнаўскага шпіталя, настаўнікі, працаўнікі розных устаноў, якія даязджаюць на працу ў распаложаную ў чатырох кіламетрах ад вёскі Гайнаўку, далейшую Белавежу і іншыя мясцовасці. У мясцовых агракватэрах адпачываюць турысты. Аднак сельскагаспадарчы характар Беразова застаўся. Абрабляюцца ўсе палі і хаця асоб, якія жывуць тут толькі з сельскай гаспадаркі, мала, некалькі гаспадароў разгарнула гадоўлю да вельмі вялікіх памераў.

На вялікай прышкольнай пляцоўцы, на якой адбываецца фэст, стаіць вялікая сцэна, якую гмінная ўправа атрымала ў рамках культурнага праекта. Падрыхтаваныя для публікі лавачкі занялі перш за ўсё мясцовыя шматлікія пенсіянеры. Пасля частка старэйшых асоб



пачала пераносіць лаўкі ў цянёк, а перад самой сцэнай некалькі асоб пачалі гуляць пад гукі беларускай музыкі.

Беларускі фэст адкрылі войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч і намеснік старшыні ГП БГКТ Васіль Сегень, які прыбыў у Беразова з працаўніцай ГП Кацярынай Філіпік і вядучай канцэрт Юлітай Сушч (пад канец мерапрыемства даехаў старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі, які раней пабываў на беларускім фэсце ў Саколцы). Мерапрыемства ўдастоілі вікарны святар Праваслаўнага прыхода Узнясення Гасподняга ў Новым Беразове, протаіерэй Анатолій Ярмоцік, старшыня Гміннай рады Гайнаўскай гміны Яраслаў Кот, радная з Новага Беразова Валянціна Бірылка, гмінныя самаўрадаўцы, працаўнікі гміннай управы і солтыс Беразова Марыя Храсцялеўская.

— У Новым Беразове даўно не было беларускага фэсту пад адкрытым небам. Мы вырашылі, што ў такой вялікай вёсцы трэба арганізаваць беларускае мерапрыемства і ладзім яго супольна з БГКТ, — сказала войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч.

Першымі на сцэне выступілі «Жаваранкі» з Махнатага (кіраўнік Пётр Скепка). Былі яны рады, што могуць выступіць у Новым Беразове, дзе жыла іх былая салістка, шматразовая лаўрэатка фестывалю «Беларуская песня» Марыя Мароз, якая памерла пасля кароткай хваробы. Нядаўна ў Махнатым адзначаўся юбілей Добраахвотнай пажарнай каманды і там калектыў «Жаваранкі» ўдала запрэзентаваўся перад сваёй публікай.

— У чэрвені святкаванні Дня пажарніка былі арганізаваны ў Махнатым, а ў маі ў Арэшкаве ладзілася музычнае мерапрыемства. Падчас летніх канікулаў мы прадбачваем выйсці з рознымі прапановамі да дзетак, моладзі і дарослых жыхароў розных мясцовасцей. Па вясковых святліцах хочам арганізаваць майстар-класы, напрыклад, дзеткі будуць выконваць аздабленні, танцаваць, гуляць у тэатр, а жанчыны будуць займацца кулінарыяй, рыхтаваць стравы. У ліпені плануем арганізаваць музычныя міні-фэсты ў Трывежы і Барысаўцы, спалучаныя з іншымі прапановамі, падчас якіх выступяць «Жаваранкі» з Махнатага. Кулінарнае мерапрыемства прадугледжваем наладзіць у Арэшкаве, а ў верасні ў Ліпінах згуртаванне «Крыніца» сарганізуе бульбафэст. У Навасадах заснавалі фонд «Падляшша», які хоча прапагандаваць беларускую культуру. Дзейнасцю фонду стаў кіраваць Рыгор Скепка з вёскі Звадзецкае і яны плануюць арганізаваць мерапрыемства ў жніўні. У Навасадах мерапрыемства будзе ладзіць гайнаўская арганізацыя «Яны, гэта Мы». Усё гэта будзе адбывацца ў Гайнаўскай гміне, каб нашыя жыхары менш сядзелі перад тэлевізарамі, — сказала войт Люцына Смактуновіч.

Алімпія Балтрамюк з Ліпін раздабыла сродкі і ў рамках рэалізаванага праекта арганізуе ў сваёй вёсцы «Ліпінскую тэатральную алімпіяду», у якой дзеткі будуць удзельнічаць бясплатна.

— Сёння мы арганізуем тры беларускія фэсты. Першы распачаўся ў Саколцы, другі праходзіць тут, у Новым Беразове, а трэці будзем яшчэ адкрываць у Чаромсе. Прадаўжаем мы ўдалае супрацоўніцтва з Гайнаўскай гмінай і спадзяемся на цеснае супрацоўніцтва ў будучыні. Зараз мы ў палове арганізавання беларускіх фэстаў, бо раней арганізавалі іх у Гайнаўцы і Дуброве-Беластоцкай. Ёсць яшчэ сродкі на правядзенне пяці беларускіх фэстаў, — заявіў намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Васіль Сегень.

Беларускія фэсты карыстаюцца фінансавай падтрымкай Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, арганізацыйнай дапамогай Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве і вялікім заангажаваннем мясцовых асяродкаў культуры. У гэтым годзе Гмінны асяродак культуры ў Дубінах, які быў суарганізатарам фэсту ў Беразове, быў перайменаваны на Гмінны цэнтр культуры. Дырэктарам цэнтра стала Наталля Кос, у якой ёсць ужо планы яго дзейнасці.

— Я хацела б арганізаваць больш беларускіх фэстаў і запрашаць калектывы з Беларусі. Апрача музычных мерапрыемстваў мы прадбачваем у час канікулаў мастацкія і танцавальныя заняткі. Мы хацелі б заснаваць вакальны беларускі калектыў у Дубінах, бо ў нас ёсць традыцыі дзейнасці такога калектыву, — заявіла дырэктар Гміннага цэнтра культуры Наталля Кос, якая дзяцінства правяла ў Ласінцы, а зараз жыве ў Збучы.

— Мы ахвотна прыязджалі ў Беразова ў святліцу на танцы. Дабіраліся сюды на розным транспарце, а нават і пяшком. Зараз мы, «Чыжавяне», выступаем каля гэтай святліцы і бачым, што тут добрая атмасфера. Раней мы спявалі ў Вульцы, у сваёй гміне, дзе сёння адбываецца беларускі фэст «І тут жывуць людзі», арганізаваны Беларускім музеем з Гайнаўкі. Сёння яшчэ едзем выступаць у Чаромху, — сказалі жанчыны з калектыву «Чыжавяне» з Чыжоў (кіраўнік Юры Ганевіч).

Галена Васілюк дадала, што выступае на сцэне ўжо з часоў сярэдняй школы, калі ў Бельску танцавала ў калектыве «Зязюлькі», разам з пазнейшым намеснікам маршалка Падляшскага ваяводства Валянцінам Карыцкім. Перад публікай удала выступіў калектыў «Лайланд» з Беластока, якога дзейнасцю кіруе Багдан Астапчук. Цікава запрэзентаваўся дуэт з Вясковага дома культуры ў Рыбалах і калектыў «Росы» з гэтага ж дома культуры, якімі апякуецца Лідзія Мартынюк.

Прыгожа прэзентавалася прышкольная пляцоўка, абсаджаная дрэвамі. Абапіраецца яна аб вялікі будынак былой школы, які прадбачаны да зносу, і вясковую святліцу. У святліцы ладзяцца вясковыя сходы і сямейныя ўрачыстасці, сустракаецца моладзь, якой у Новым Беразове яшчэ многа.

Выступы завяршыў калектыў «Белы птах» з Мінска (кіраўнік Вольга Жышкевіч), якога прафесійны спеў і танцы асабліва спадабаліся публіцы.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Каму гэта мае служыць?

На жаль, цяжка мне справіцца з фінансавымі праблемамі па прычыне вельмі нізкай пенсіі і шматлікіх хвароб дае неабходнасці купляць лякарствы. Таму калі я атрымаў медыцынскае заключэнне аб ступені інваліднасці, хацелася мне даведацца на якую дапамогу з боку ўстаноў сацыяльнага забеспячэння магу разлічваць. У старастве, у Цэнтры дапамогі сям'і, я даведаўся толькі, што маю права прайсці на другі бок вуліцы пры чырвоным святле. Але гэта мяне не ўзрадавала, паколькі адзінае ў Сямятычах скрыжаванне са святлафорамі знаходзіцца даволі далёка ад месца, да якога давозіць мяне аўтобус. Спытаўя пра магчымую прапанову Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі, але мне параілі самому пайсці ў асяродак і там спытацца. Пацягнуўся я тады (у мяне праблемы з нагамі) да сядзібы ГАСД па вуліцы 11 Лістапада, непадалёку цэнтра горада. Калі я ўжо там дайшоў, прачытаў картку на дзвярах, што асяродак перанесены на вуліцу Касцюшкі, 88. А гэта абазначае, што цяпер знаходзіцца ён у будынку гміннай гімназіі, на канцы вуліцы, практычна па-за горадам. Моладзь завозяць туды на аўтобусе, але даросламу трэба дайсці самому. А гэта абазначае шпацыр амаль праз увесь горад Сямятычы, на дадатак па вуліцы, пры якой няма ні магазінаў, ні лавачак, каб можна было зрабіць закупы і адпачыць. Значыць, пустая хадзьба на вельмі доўгай дыстанцыі.

Адмовіўся я ад візіту ў Гмінным асяродку сацыяльнай дапамогі і ніякіх ведаў на тэму магчымай дапамогі ў мяне няма. Затое ўзнікла ў мяне пытанне да сямятыцкіх улад: каму мае служыць такая дапамога, калі стары, хворы чалавек сам там не давалачэцца. А менавіта ён найчасцей патрабуе дапамогі.

**М. Ц.**

## Рамонты вуліц

Гайнаўскія гарадскія ўлады дбаюць пра вуліцы, каб былі яны бяспечныя, роўныя ды прыгожыя. Кожны год перабудоўваюць некаторыя з іх ды будуюць новыя маставыя. Сёлета пакладуць асфальт на вуліцах у чатырох жыллёвых пасёлках.

Лета — найлепшая пара для мадэрнізацыі маставых вуліц. 4 ліпеня гэтага года хадзіў я па гайнаўскіх вуліцах, на якіх пачаліся вялікія і малыя рамонтныя работы. У той дзень найбольш рамонтных брыгад працавала пры грунтоўнай перабудове доўгай вуліцы Простай на пасёлку Пашкі. Тут пакладуць брусчатку або асфальт яшчэ на вуліцы Гранічнай (усё для гэтага падрыхтавана, між іншым, новыя бардзюры і роўны грунт пад пракладку новай маставой).

У пасёлку Пляцоўка (гэта там, дзе раней працавала буйная хімічная фабрыка) на 250-метровай вуліцы Руткоўскага я ўбачыў новыя бардзюры і ўжо пачалі класці каляровую брусчатку. На гэтым жа пасёлку яшчэ ўзяліся за рамонт ухабістай вуліцы Фабрыка хімічная. На адрэзку гэтай вузкай вуліцы бардзюры пакладзены раўнюсенька і толькі. Яшчэ невядома, з чаго будзе маставая.

Затым паехаў я на аўтобусе гарадской камунікацыі 3-кіламетровай вуліцай Ліпавая на пасёлак Падлясе, там дзе новая бальніца на ўскраіне горада пад лесам. Напрыканцы Ліпавай ад яе бяруць свой пачатак вуліцы з назвамі лясных і дамашніх птушак. Сёлета тут маюць пабудаваць новую маставую на невялічкай ды вузкай вулачцы Івалгі. Пабапал яе ўжо праклалі бардзюры.

На гайнаўскім пасёлку Старая Юдзянка будзе адноўленая аднайменная вуліца.

**(яц)**

# Юбілейная „Бандароўская гасцёўня” з „Гараднiцай”



**Без беларускіх фэстаў, у тым ліку і „Бандароўскай гасцёўні”, цяжка ўявіць культурны ландшафт усходняй Беласточчыны. Родныя песні, музыка, сустрэчы з беларускімі мастакамі спрыяюць захаванню і ўмацаванню нацыянальнай свядомасці мясцовых беларусаў.**



Народны ансамбль беларускай песні „Гараднiца”



Ніна Леўчук і Марыя Хлабіч паказалі сваё рукадзелле



На архіўных здымках з беларускіх фэстаў гледачы пазнавалі сябе (Янка Бірыцкі)

Юбілейны, пятнаццаты па ліку, фэст „Бандароўская гасцёўня”, які адбыўся ў Бандарах 18 ліпеня г.г., парадаваў публіку канцэртам беларускіх айчынных і замежных калектываў. Прыехалі ў Бандары „Маланка” і „Куранты” з Бельска-Падляшскага, „Ас” і „Калінка” з Беластока, „Падляшская капэла” з Сямятыч ды „Гараднiца” з Гродна.

Усе ўдзельнікі „Бандароўскай гасцёўні” — як гледачы, так і выканаўцы — пацвердзілі, што шануюць роднае і ганарацца прыналежнасцю да беларускай нацыі. Артысты, апранутыя ў народныя касцюмы, падаравалі публіцы прыгожыя задушэўныя песні і дынамічныя народныя танцы. Прыемна было тое, што песні, якія плылі са сцэны, ведалі многія прысутныя.

Адным з самых жаданых пунктаў канцэртнай праграмы было выступленне калектыву з братняй Беларусі — Народнага ансамбля беларускай песні „Гараднiца”. Ансамбль спявае з 1988 года, а два гады пазней абараніў ганаровае званне „народны”. Заснавальнікамі і мастацкімі кіраўнікамі калектыву былі Алесь і Сафія Лойкі. Асноўнай мэтай дзейнасці ансамбля з'яўляецца выяўленне і захаванне фальклорнай спадчыны Панямоння, выхаванне любові да народнай песнятворчасці, вакальна-харавога мастацтва, стварэнне дасканалых умоў для развіцця мастацкіх здольнасцей удзельнікаў самадзейнага калектыву.

Сёння каманда Алеся Лойкі налічвае 26 творчых асоб розных прафесій, якіх аб'ядноўвае гарачая любоў да народнай творчасці і магчымасць творчай самарэалізацыі. За 26 гадоў творчай працы, праз „творчае сіта” ансамбля прайшло не менш за 150 асоб.

— Мы родам з Белай Русі і таму мы беларусы. Вы чулі як гудзе дуда, як звіняць цымбалы, як пераліваемі рэжа гармонік, як пяюць галасістыя чарнабровыя дзяўчаты і вясёлыя хлопцы? Вы ведаеце як пахне чабор, як гамоняць на світанку галінкі пушчанскіх дрэў, як лагодна хвалюецца наш бацька — сінявокі Нёман? Не? У такім разе сардэчна запрашаем на канцэрт народнага ансамбля „Гараднiца”, — запрасіў мастацкі кіраўнік Алесь Лойка. — Шчыра спадзяемся, што, на нашым канцэрце вы пачуеце голас Беларусі.

І сапраўды ўсе пачулі. Са сцэны паплылі мілагучныя беларускія песні, якія ўзрушылі слухачоў, напоўнілі іх сэрцы радасцю.

У тых, хто трапіў на сёлетні XV фэст „Бандароўская гасцёўня”, засталіся самыя прыемныя ўражанні. Тым жа, хто там не быў ніколі, хочацца пажадаць прыехаць сюды, каб адчуць ягоную непаўторную атмасферу, калі людзі становяцца больш радаснымі. Пасёлак Аседле ў Бандарах цяжка ўявіць без фэсту і беларускай песні.

**Віктар БУРА**
**Фота Міры ЛУКШЫ**

Родам з Беласточчыны

# Згадка пра Адольфа і Язэпа Зянюкоў

У першай палове ХХ стагоддзя ў Заходняй Беларусі жылі два таленавітыя юнакі — Адольф і Язэп Зянюкі. Іх заўсёды блытаюць даследчыкі нашай літаратуры. Творчасць і справы Адольфа Зянюка прыпісваюць Язэпу Зянюку і наадварот. Але гэта розныя хлопцы-беларусы, якія шмат зрабілі для беларускай культуры. Праўда, звестак пра іх захавалася мала. Калі пра Адольфа Зянюка прыгадвае ў сваіх успамінах пісьменніца Зоська Верас (1892-1991), то пра Язэпа Зянюка звестак захавалася дужа мала. Нават не ўдалося адшукаць яго фотаздымка. Цікава, а чаму ж пра Язэпа Зянюка ніколі не згадвала гэтая ж Зоська Верас? Яна ж яго добра ведала, чытала яго выдатныя артыкулы, найперш прысвечаныя нашай гісторыі?.. Язэп Зянюк быў земляком Адольфа Зянюка, таксама родам з мястэчка Сухаволя Сакольскага павета. І, магчыма, гэта быў блізкі сваяк Адольфа. Язэп Зянюк, як і Адольф Зянюк, з'яўляўся дзеячам Беларускага студэнцкага саюза, быў сябрам рэдкалегіі часопіса «Беларуская думка», які рэдагаваў пэўны час і Адольф Зянюк. На старонках гэтага часопіса Язэп Зянюк апублікаваў два вялікія артыкулы: «Аб польскім студэнцтве У.С.Б. і яго адносінах да беларускага студэнцтва» (1929 г.) і «Па поваду святкавання Вітаўтавага юбілею» (1930 г.). Выдатныя артыкулы.

Друкаваўся Язэп Зянюк і ў іншых віленскіх выданнях, найперш у «Новай варце». Артыкулы яго, напісаныя ў першай палове ХХ стагоддзя, не састарэлі і сёння. Таму іх трэба збіраць па ўсіх старых выданнях і выдаваць асобнай кніжкай.

У 1909 годзе ў Гародні быў створаны гуртok беларускай моладзі, які праіснаваў да пачатку Першай сусветнай вайны. Арганізатарам гэтага гуртка быў ксёндз Францішак Грынкевіч, які, як пісаў Аляксей Пяткевіч, будзіў беларускі дух. Актыўнымі сябрамі гуртка ў асноўным была моладзь з Сакольшчыны. Актыўнымі сябрамі Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі (ГГБМ) з'яўляліся Адам Бычкоўскі, Зоська Верас, Янка Ляўковіч, Язэп Лявіцкі, Уладыслаў Чаржынскі, Янка Чарапук, Марыся Бобрык, Баляслаў Грабінскі, Адольф Зянюк і іншыя юнакі і дзяўчаты. Сярод іх не прыгадваецца Язэп Зянюк. Значыць, ён быў намнога маладзейшы за свайго земляка і сваяка Адольфа Зянюка.

Сябры гуртка, «стараючыся развіваць беларускую свядомасць і годнасць людзей, ладзілі традыцыйныя для таго часу грамадска-культурныя акцыі: на сваіх сходах чыталі беларусазнаўчыя рэфераты, ставілі спектаклі на роднай мове, дэкламавалі вершы беларускіх паэтаў, прэзентавалі музычныя праграмы на нацыянальным матэрыяле з удзелам струннага аркестра, хору, салістаў, дуэтаў. Неаднаразова выязджалі са спектаклямі і канцэртамі на вёску, распаўсюджвалі беларускія кнігі» (А. М. Пяткевіч, *Старонкі спадчыны*, Мінск 2006, с. 55).

Апошнім старшынёй Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі быў Адольф Зянюк (1895-1938). У лісце да Зоські Верас ад 19 кастрычніка 1913 года Адольф Зянюк пісаў: «Неяк паклікаў нас да сябе кс. Ф. Грынкевіч і радзіў нам змяніць крыху статут гуртка. Лепш сказаць, дапоўніць. Апрача напрамку самаасветнага дадаць пункт аб самавыхаванні. Мы згадзіліся. Адначасова пазнаем нашу мову, вывучаем гісторыю, геаграфію Беларусі, як і раней...».

Але вясной 1914 года сябры гуртка раз'ехаліся па хатах, каб болей у Гародню не вяртацца, бо пачалася Першая сусветная вайна.

У 1916 годзе Адольфа Зянюка мабілізавалі ў войска. Ён трапіў у Кіеў, дзе нават паспеў скончыць нейкую ваенную вучэльню. Потым сухавольскі юнак трапляе ў Петраград. Там паступае на юрыдычны факультэт мясцовага ўніверсітэта. Акрамя вучобы, ён прымае актыўны ўдзел у працах беларускіх студэнцкіх арганізацый, а таксама ў агульнагарадскім беларускім руху. Як успамінае Зоська Верас, Адольф Зянюк, «як сталы сябра сабранняў у прафесара Б. Эпімах-Шыпілы, у курсе ўсіх петраградскіх беларускіх падзей, і таму з'яўляецца як бы сувяззю паміж Петраградам і Менскам. Яго лісты да мяне адбіваюць увесь беларускі рух у Петраградзе, і таму чыталі іх супольна з усімі менскімі беларусамі, якія збіраліся ў Беларускай хатцы (Захараўская, 18). І, наадварот, мае лісты аб нашай працы ў Менску чыталі на сабраннях у прафесара Эпімах-Шыпілы» (Зоська Верас, *Я помню ўсё*, Гародня — Wrocław 2013, с. 24).

Пасля Петраграда Адольф Зянюк вяртаецца ў Вільню. Працягвае вучобу ў Віленскім універсітэце і актыўна займаецца грамадскай дзейнасцю. Ён становіцца сябрам Беларускага студэнцкага саюза (БСС), уваходзіць у рэвізійную камісію ўрада БСС. Разам з іншымі сябрамі БСС наладжвае тэматычныя вечары, сустрэчы, дыскусіі. Сам выступае з дакладамі. Напрыклад, 17 студзеня 1926 года Адольф Зянюк перад сябрамі БСС прачытаў лекцыю «Крызіс парламентарызму», а 4 сакавіка БСС ладзіў тэматычны вечар, на якім з рэфератам «Адраджэнне Беларусі» выступіў таксама.

Дзейнасць Беларускага студэнцкага саюза асвятлялася ў газеце «Змаганне», а пасля ў «Беларускай крыніцы», дзе БСС была адведзена цэлая паласа («Студэнцкая трыбуна»). З 1924 года па 1935 год друкаваным органам Беларускага студэнцкага саюза і ўсяго руху становіцца грамадска-палітычны, навуковы і літаратурны часопіс «Студэнцкая думка». Першым рэдактарам-выдаўцом становіцца Адольф Зянюк.



Адольф Зянюк

Рэдакцыя «Студэнцкай думкі» разам са сваім рэдактарам імкнулася, каб на старонках часопіса быў прадстаўлены «агульны ідэйны кірунак адраджэнскай беларускай моладзі». Часопіс друкаваў хроніку найважнейшых падзей грамадска-палітычнага і нацыянальна-культурнага жыцця насельніцтва Заходняй Беларусі, БССР, Чэхаславакіі, Прыбалтыкі. Падрабязна асвятляў дзейнасць БСС. Змяшчаў таксама паведамленні аб працы разнастайных арганізацый Вільні. Друкаваліся на яго старонках разнастайныя публіцыстычныя артыкулы і мастацкія творы. Чытачы знаёміліся з літаратурнымі творамі Наталлі Арсенневай, Віктара Вальтара, Франука Грышкевіча, Ігната Дварчаніна, Хведара Ільяшэвіча, Аўгена Бартуля, Міхася Тулейкі і іншых аўтараў. Змяшчаліся даследчыя працы Антона Луцкевіча, Яна Станкевіча, Ігната Сланеўскага, Аляксандра Цвікевіча і г.д.

У 1927 годзе Адольф Зянюк заканчвае Віленскі ўніверсітэт і з дыпломам магістра права едзе працаваць на Палессе. Але ненадоўга. Хутка яго прызначаюць кіраўніком беларускага аддзела пры Віленскім радыё. І ён вяртаецца ў Вільню. Кожны тыдзень беларус выступае па радыё, чытае лекцыі, запрашае ў студыю іншых таленавітых беларусаў. Гэта дзякуючы Адольфу Зянюку, вельмі часта па радыё гучаць песні ў выкананні хору Беларускага студэнцкага саюза пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы, а таксама песні ў выкананні іншых беларускіх спевакоў і кампазітараў. Аб прызначэнні на працу на радыё Адольфа Зянюка, «Студэнцкая думка» (1928 г., № 2) паведамляла: «Трэба зазначыць, што гр. Адольф Зянюк з'яўляецца зусім адпаведнаю асобаю кіравацъ беларускім аддзелам у радыё, дзеля чаго аддзел беларускі вядзецца зусім добра».

Пражыў Адольф Зянюк усяго 44 гады. Яго не стала ў 1938 годзе ў Вільні, дзе яго і пахавалі сябры.

Сябры Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі Людвіка Сівіцкая і Юзя Грынкевіч; стаяць (злева направа): Ян Раманскі, Адольф Зянюк, невядомы, крайняя справа — Марыся Бобрык, 1913 г.

Сяргей ЧЫГРЫН

## Хваравітая сістэма

У лютым гэтага года карыстаўся я артапедычнай парадай у Гайнаўскім ЗОЗ. Папрасіў затым лекара, каб выпісаў мне заказ на артапедычныя боты. І з таго часу пачаліся мае мучэнні пры афармленні заказу ў НФЗ. Чыноўніца адмовіла праштампаваць заяўку на рэфундацыю, паколькі лекар няправільна запісаў код «медычнага вырабу». Не стаў я прапісвацца паўторна ў чаргу да гайнаўскага спецыяліста, паколькі набліжаўся тэрмін візіту, назначаны ў артапедычнай клініцы Ваяводскага шпіталя ў Беластоку. Было гэта 24 чэрвеня г.г. Атрымаўшы станоўчы дыягназ хваравітай нагі, папрасіў я доктара выпісаць новы заказ на артапедычныя боты. Гэтым разам панечка з НФЗ сказала: «На адзін бот праштампую заказ на рэфундацыю. На другі бот код запісаны правільна, але абгрунтаванне недастатковае. Да напісанага лекарам «but wyrównujący" патрэбна дапісаць: «do pary przy zaopatrzeniu jednoczesnym na chorą stopę». Затым паўторна вымушаны я быў ставіцца ў беластоцкую клініку, каб доктар запісаў правільную клаўзулу. Ці гэта не бюракратычная выдумка чынушы НФЗ ганяць 75-гадовага чалавека, прытым інваліда няздольнага да самастойнай экзістэнцыі? У разуменні гандлёвай сістэмы назву тавару або рэчы заступае код. Кодамі касір карыстаецца пры запісванні рахунка «для заплаты». Няўжо правільнага кода «медычнага вырабу», запісанага лекарам, недастаткова для праштампавання заяўкі на рэфундацыю? Хачу прытым адзначыць, што такі сюрпрыз робіць мне Нацыянальны фонд здароўя ў Беластоку ўпершыню, хоць штогод прад'яўляю такія заказы і карыстаюся асабістым рахункам у Ваяводскім аддзяленні НФЗ. Там мая хвароба апісана дэталёва. Ці гэтага нельга праверыць у камп'ютары? Вышэйпаказаны прыклад — доказ гэтага, што НФЗ прытрымліваецца абсурдных запісаў хваравітай медычнай сістэмы або... бюракратычных пастак панечак з Ваяводскага аддзялення НФЗ. Ці так быць павінна? — пытаю дырэктара ўстановы аховы здароўя.

Уладзімір СІДАРУК

*Дзікі абед*

## Запяканка са сніткі

Пучок лісткоў сніткі з хвосцікамі (каля 200 г), 1-2 кг бульбы, 300-600 мл смятаны, некалькі зубкоў часнаку або цыбулек мядзведжага часнаку, больш дзясятка лісця вадзянога перцу (Polygonium hydropiper), насенне дзягілю (баршчу звычайнага).

Бульбу пачысціць, пакроіць у кружочкі і варыць каля 5 хвілін. Снітку пачысціць, адцяць самыя хвасты лісткоў (пачырванелыя). Лісце і рэшту хвастоў дробна парэзаць. У жараўстойлівы посуд наліць крыху тлушчу (напр., алею). Пакласці ў яго падвараную бульбу і снітку (перамешаныя) і вадзяны перац. Заліць смятанай, пасыпаць дзягіль (калі яго ў нас няма, можам прымяніць аніс або правансальскія зёлкі). Накрыць посуд пакрыўкай, паставіць у печку (тэмпература 150-180 градусаў). Дастаць, калі смятана зверху зрумяніцца (недзе праз 30-40 хвілін).

Ясюк СТРУК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі

# Каб не знікла традыцыя



Нашую бабулю завуць Ірэна Лаўрашук. Яна жыве ў Новым Ляўкове. Бабуля 19 гадоў працавала ў краме ў Старым Ляўкове прадаўшчыцай і адначасова працавала на гаспадарцы, займалася домам і выхоўвала трое дзяцей. Цяпер бабуля на засілку перад пенсіяй.

Да вышывання, вязання на прутках і кручком цягнула бабулю ўжо з малых гадоў. Зараз вышыванне крыжыкам гэта бабулінае хобі.

Першыя ўзоры бабуля пазычала ў суседак і ў сямейнікаў. Зараз яна заказвае іх з каталогаў. Сваіх твораў мастацтва бабуля не прадае, пакідае іх сабе і сваёй сям'і. Падушкі кладзе на ложак, а карціны і іконы вешае на сценах. Сваё захапленне вышыўкай передала дачцэ Асі, якая жыве ў Лондане і вельмі многа вышывае. Крыжыкаваць бабуля навучыла таксама нас, свае ўнучкі — Карнелію і Вікторыю. Мы таксама маем ужо свае першыя крыжыкаваныя малюнкі. Гэта вельмі цікавы занятак, асабліва тады, калі відаць прыгожы эфект сваёй працы.

**Карнелія і Вікторыя Барэчка**
Гімназія Ў Нараўцы

# Сасіскі ў французскім піражку

Унікальны рэцэпт Людмілы Казлоўскай

**Кампаненты:**
— Разрэзаныя ўпоперак палавінкі сасісак.
— Сырое развалкаванае французкае цеста.
— Жоўты сыр.
— Сезам.
— Разбоўтанае яйка.

**Спосаб прыгатавання:**
Завінуць сасіску ў скрылік сыру, а пасля ў французскае цеста. Змазаць верх цеста яйкам і пасыпаць сезамам. Пячы 30 хвілін у духоўцы нагрэтай да 200 градусаў Цэльсія.
Смачна есці!

Рэцэпт запісала Вераніка Кардзюкевіч — „Вокны Беларусі"



Уля Падгаецкая

## Дэбют

**Жывем хутка, раптоўна,
Не зважаем на нішто.
Глядзім на свет
І што бачым? Нічога.**

**Трэба лавіць хвіліну,
Як найбольш усяго браць.
Назіраць заход сонца.
Вецер пад рукі ўзяць.**

**Бо бывае і так,
Што жыццё як лісты,
Ападае на ніз
У час веснавой пары.**

**„Шпакоўня»**

# УВАГА КОНКУРС! № 31-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 9 жніўня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Сто адзежын
Апранула,
Твар
Ад сонца
Зазірнула,
Як старэнькая
Бабуля,
Дрэмле,
Седзячы,
Ц.....**

(Аўяр'н Дзеружынскі)

**Рыжая дзяўчынка
Залезла ў двор —
Курэй пералічыла
І ўсіх панесла ў бор.
Л...**

(Ніл Гілевіч)

**Адказ на загадкі № 24-15: каня, расінкі. Узнагароду, беларускую кніжку, выйграў Адам Матвяюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

## Дзякуй Табе, бабуля

*Дзякуй Табе, бабуля,
за кожную гісторыю,
за лёгкую,
за страшную.
І за тую, расказаную
са слязамі ў вачах,
і з усмешкай...
Я ўсё перажывала,
была з Табой
і нешта зразумела.
Я вельмі рада,
што Ты са мной,
што між намі
гарачая любоў.*

*Наталля Васько
— «Сустрачанскія навіны»*

# Заўсёды я ведаў, што буду пісаць кнігі…

*Інтэрв'ю з пісьменнікам **Міхасём Андрасюком**, аўтарам знакамітых кніг „Мясцовая гравітацыя", „Фірма", „Белы конь", „Вуліца добрай надзеі", „Pociąg drugiej klasy", „Krzyżyk" .*



**„Вокны Беларусі": — *Вы некалькі разоў былі на Сустрэчах „Зоркі". Вы любіце сустракацца з маладымі людзьмі?***

**Міхась Андрасюк:** — Вядома, вельмі люблю. Я сам не дзіцячы пісьменнік, дзеткі аднак вырастаюць вельмі хутка і яны будуць маімі чытачамі. А чаму люблю сустракацца?

Моладзь дае новую, добрую энергію. Хочацца яшчэ нешта рабіць і пісаць.

**ВБ: — *Што дае Вам натхненне для пісання?***

**МА:** — Натхненне прыходзіць ад нашых настрояў, ад размоў з людзьмі, ад прыроды. Часам хопіць адзін сказ, адна думка, каб на іх аснове збудаваць цэлы твор. Я не ведаю ці ёсць нешта такое як натхненне. Свежасць думкі — гэта нешта важнае. Мне найлепш пішацца раніцай. З раніцы чалавек свежы. Я вельмі люблю пісаць летам, на вёсцы, калі пачынаецца дзень. Тады ў мяне „адчыняюцца" думкі. Гэта можна было б назваць натхненнем.

**ВБ: — *Мы ведаем, што Вы пішаце творы на польскай і беларускай мовах. На якой мове лягчэй пішацца?***

**МА:** — Хутчэй мне пісаць на польскай мове, таму што на беларускай часам трэба шукаць слоў. Літаратура патрабуе шмат слоў. Польскія словы знаходжу хутчэй. Мова гэта, аднак, толькі інструмент. На беларускай мове пішацца даўжэй, але затое паўстаюць лепшыя, больш глыбокія творы. Пра самыя блізкія справы можна напісаць толькі на сваёй роднай мове.

**ВБ: — *Чаму ў Вашых творах так часта выступае Белавежская пушча і людзі, звязаныя з гэтай тэрыторыяй?***

**МА:** — Я нарадзіўся на ўскраіне Белавежскай пушчы і побач яе пражыў жыццё. Людзі, пра якіх я пішу, добра мне знаёмыя. Пісаць можаш пра тое, што добра ведаеш. Калі я не напішу пра свой свет, дык хто пра яго напіша? Гэты свет варты, каб знайсці сваё месца ў літаратуры.

**ВБ: — *Што нам трэба рабіць, каб напісаць добры і цікавы твор?***

**МА:** — Калі я хадзіў у пачатковую школу, я ўжо ведаў, што хачу быць пісьменнікам. Ведаў, што буду пісаць кніжкі. Гэта была дзіцячая мара. Я спрабаваў пісаць пра вайну. Я аглядаў фільмы пра вайну, гуляў з сябрамі ў вайну — я гэтым жыў. Аднак настаўніца польскай мовы, якая пабачыла мае апавяданні, параіла, каб я пісаў пра свой свет, а не пра тое, чаго не бачыў. Мая настаўніца ведала ў чым сэнс літаратуры. Яна заахвоціла мяне да чытання кніжак. Дала мне кніжкі, якія чыталі нават студэнты. Я не шмат яшчэ з гэтых кніжак разумеў, але зразумеў, што літаратура гэта нешта больш ад таго, што напісана на паперы. Я шмат чытаў у вашым узросце, прачытаў усе кніжкі са школьнай бібліятэкі. Памятаю, што калі не хапіла літаратуры, я ўзяўся чытаць кніжку „Uprawa buraków"… *(Смех!)* Каб добра пісаць, трэба самому чытаць іншых аўтараў. З чаго пачынаць? Вам трэба пачынаць з простых рэчаў, запісваць свае думкі, свае ўражанні, апісваць тое, што здаецца вам важным…

**ВБ: — *Дзякуем за размову!***

**МА**: — Дзякую!

## Лаканічная ацэнка МІХАСЯ АНДРАСЮКА

У кніжках Міхася Андрасюка мы сустрэнем знаёмыя вобразы ад Белавежскай пушчы.

Мы мелі нагоду сустрэцца з пісьменнікам. Пасля інтэрв'ю, якое ў госця ўзяла рэдакцыя газеты «Вокны Беларусі», спадар Міхась прачытаў нам фрагмент сваёй новай кніжкі, якая на днях выйдзе з друку. Ідэя кніжкі — развіццё беларускага апавядання «Крыжы» з «Вуліцы Добрай Надзеі».

Сярод нас многа аматараў паэзіі. У рамках падзякі мы прачыталі нашаму госцю свае творы, якія былі надрукаваны ў «Зорцы». Гэта не была простая задача. Нас ахапіла хваляванне і страх. Знакаміты пісьменнік выслухаў нашыя чытанкі, пасля лаканічна сказаў:

— Мне хацелася вас паслухаць!

Наталля Васько — «Сустрачанскія навіны»



Малюнак «Міхась Андрасюк» - Элізы Матус

Юстына Марчук, «Шпакоўня»

### Першае каханне

*Бачыш яе твар,*
*Блакітныя вочы, гучны смех.*
*Ведаеш, ты ведаеш напэўна,*
*Што вельмі любіш яе.*

*Аднак яна*
*— толькі тваёй сяброўкай.*
*Не будзе на цябе так глядзець.*
*Ты чуеш боль,*
*Боль, які разрывае душу тваю!*
*Ты пазнаў пэўна, што такое*
*Першае каханне.*

## Польска-беларуская крыжаванка № 31_15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 27:**

Золак, дух, ват, ах, траса, трус рот, Ян, рынак. Дата, зух, ох, тры, трон, рута, квас, Ас, стайня.

Узнагароду, запісную кніжку, выйгралі **Анна Рушук** з Чыжык. Віншуем!

Nie / Mińsk, Natasza, Step, Otoczka / Kamień, Matka, Nerka, Siłacz, Matematyka, Ataman, Kopiec, Brat, Ar, Stal, Nitka, Ara

# Чаму павыязджалі

— Ці гэта вайна была ці што... — раздумвае жыхарка Паўлаў Вера Яканюк, народжаная ў 1932 годзе.

— Неабходна было, гэта ж не адна вёска, усе павыязджалі, — тлумачыць ёй субяседніца, сяброўка з вясковай лавачкі Марыя Садоўская 1928 года нараджэння.

Вольга — маці спадарыні Веры Яканюк, нарадзілася ў 1914 годзе ў Сацах, а ўжо год пазней прыйшлося ёй блудзіць па шырокім свеце. На дарогу баба Марфа насушыла сухароў. Пазапрагалі коней і паехалі, ніхто не застаўся. Калі вазы парассыхаліся, а коні паздыхалі, Марфа, яе муж Андрэй і дзеткі Вольга, Валодзя і Надзя пераселіся на чыгунку, якая завезла іх у далёкую Калугу. Далёкую і галодную. Запыніліся ў хаце барадатага дзеда, які цэлымі днямі на печы сядзеў, а яго жонка сама сеяла, арала, прала, ткала. Доўга яны там не вытрымалі. Неўзабаве, у пошуках лепшага жыцця, адправіліся на Украіну. Дарога была надта цяжкай і доўгай. Ваду кубкамі з лужын чэрпалі і праз шматку працэджвалі, але пражылі, даехалі. Даехалі ў сапраўдны рай — адна пшаніца, свежы хлеб штодзень, пірагі, пячэнне, мяса. Добрыя людзі там былі, на працу іх не ганялі, усё пад нос падстаўлялі. Праўда, мясцовы царкоўны сторож наняў маленькую Вольгу прадаваць крыжыкі. Ці плацію ёй за гэта, невядома. Заехаўшы пад указаны ім раней адрас, пачулі ад гаспадара:

— Ой, не прыходзьце да нас, нявестка надта кепская, нас з хаты ганяе і вас пагоніць, — смяецца, успамінаючы бабіны гісторыі, спадарыня Вера.

Тут жа запыніў іх іншы гаспадар.

— Пойдзем да нас, у нас нявестка добрая, будзе вас даглядаць.

Так і было. Нявестка карміла іх, пакуль не настала рэвалюцыя.

— Вяртайцеся туды, адкуль прыехалі. Нам самім хлеба ўжо не хапае, — сказала ім на развітанне.

Вярнуліся, але не ўсе. Надта прыгожая Надзя, пра якую марылі ўсе ўкраінскія кавалеры, памерла ад нейкай заразы званай іспанкай, мабыць выпітай з вадой з лужыны. Пахавалі яе як трэба, з бацюшкам, на могільніку, на ўкраінскай зямлі. Спачыў там таксама хварэўшы на тыф Валодзя.



Вера Яканюк з Паўлаў

Назад везлі іх чыгункай. Андрэй, галава сям'і, на адным з прыпынкаў выйшаў з вагона і не вярнуўся.

— Дзе ён дзеўся, ці пад колы папаў, ці што... Калі б застаўся жывы, напэўна дабраўся б дахаты, — мяркуе яго ўнучка спадарыня Вера.

З бежанства прывезлі некалькі кніжак. Не ведаю дзе яны цяпер знаходзяцца, мабыць, толькі дзед іх чытаў. Адну, вялікую Біблію мне хацелі аддаць, але чамусьці Дамініся Дзям'янчына яе ўзяла.

Марфа вярнулася з бежанства так як стаяла і толькі з адной дачкой Вольгай. Вясковыя агароды рака пазалівала, бульбу прыйшлося садзіць ёй пад самым лесам.

— Выбралася баба агарод палоць, бачыць, а там мама зелечка рве і есць, зелечка рве і есць, — хвалюецца да слёз спадарыня Вера. — Пайшла на Польшчу, у Заблудаў жабраваць. Давалі няшмат, пару картопляў, кусочак хлябца. А Вольга толькі ў кучачкі сядзе і выглядае, калі мама вернецца.

> Мая баба цэлы год невядома дзе падзявалася, — тлумачыць спадарыня Марыя Садоўская. — Сышла з воза вады зачэрпнуць і знікла, а чацвёра дзяцей з бацькам паехала далей. На шчасце пасля розыскам яе знайшлі.

— Нашы казалі, што крапіву сушылі, церлі і з гэтага хлеб пяклі. Мукі жа ж не было, — плача спадарыня Марыя. — Яшчэ ў бежанстве ў жніво за трактарамі з торбачкамі, мяшочкамі хадзілі, калоссе збіралі. Тыя каласочкі потым сюды папрывозілі. Так яны зажылі.

— У мяне ёсць сястра Надзя і брат Коля, — кажа спадарыня Вера. — Баба заўсёды намі апекавалася, маме за працай не было калі. Яшчэ ў старой хаце, бывала, залезем на вялікую печ, баба гароху з аўсом пасцеліць і правіць нам казкі. Яе муж Андрэй быў шаўцом і шмат грошай зарабляў, да таго трымаў 200 пчаліных вулляў. Перад выездам у бежанства пад грушай закапаў ён тры сундукі палатна і два гаршкі золата. На жаль, Марфа, падумаўшы што дахаты ўжо ніколі не вернецца, выгаварылася перад прабываючымі разам з ёю ў бежанстве аднавяскоўцамі. У выніку галодная, халодная і аўдавелая застала пад сваёй грушай толькі пустую яму. Пасля бабіных аповедаў Коля няраз адпраўляўся туды з лапатай скарб шукаць.

Так і не ведаю чаму гэта яны павыязджалі, ці гэта вайна была ці што...

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Помню дзікую Баброўку

Рэчка Баброўка — правы ціхі прыток ракі Нараўкі. Плыве яна па плоскай даліне (і, між іншым, таму яна ў многіх месцах завіліста) побач даволі доўгай вёскі Новае Ляўкова і ўплывае ў Нараўку ў канцы гэтага сяла. На ўзгорку побач ракі ды пры ажыўленай дарозе з Нараўкі ў Новае Ляўкова быў вялікі драўляны вятрак Зыгмунта і Люцыяна Закшэўскіх. Вятрак пасля Другой сусветнай вайны ўжо не малоў збожжа. А стаяў ён яшчэ доўгі час. Відаць яго было здалёк.

Баброўку я бачу з акна свайго дома. У далі за ёй плыве рака Нараўка і яшчэ крыху далей на гарызонце віднее магутная Белавежская пушча. Шэсцьдзесят гадоў таму прыгожая была гэтая ціхаплынная рэчка. Вада ў ёй была чыстая-чыстая. Рэчка была натуральная і нават дзікая. Плыла павольна. Яна ўбірала ваду са шматлікіх равоў і раўчукоў. Нялёгка акрэсліць, дзе яна бярэ свой пачатак. Адно адгаліnavанне вядзе з-пад Лазовага ды іншыя даўжэйшыя з ваколіц Леснай і Міклашэва. Усе яны цякуць на тэрыторыі Нараўчанскай гміны.

Дзесьці 60 гадоў таму дно ракі густа зарастала, між іншым, эладэя канадская. Мабыць, вадзяныя птушкі яе сюды прынеслі. На невысокіх берагах раслі купчастыя кусты вярбы, алешніку, чаромхі, каліны ды вялікія старыя вольхі. Месцамі раслі кусцікі парэчак. У маі ў надрэчных зарасніках выводзіў свае чароўныя трэлі сціплы начны спявак — салавей. Ён трымаецца вільготнай мясцовасці з густымі кустамі.

Хаця не была гэта вялікая рэчка, але мела яна свае тайны. Мела глыбокія ямы і віры. Між іншым, велізарнага шчупака ў глыбокай яме на рацэ каля хаты Макара Марчука злавіў бродняй мой аднавясковец Андрэй Пучынскі са сваім калегам (ён расказаў мне пра гэта 8 ліпеня г. г.). А Саша Несцярук лавіў вялікіх ментузоў рукамі ў норах або з-пад навіслых берагоў. У берагах з зараснікамі былі норы і ў іх хавалася вялікая рыба. Вялося ў Баброўцы сама менш сем-восем відаў рыб. Уюноў і печкуроў было процьма. А колькі было ракаў!

Даўным-даўно тут пасяліліся прыроджаныя вадзяныя жыхары — бабры. Яны мелі свае хаткі. Будавалі гаці і грэблі. Падносілі ўзровень вады і набярэжныя лугі былі яшчэ больш падмоклымі. Не ўсюды можна было дабрацца на бераг ракі. Часта не дазваляла на гэта глыбокая твань. Бывала, танулі ў ёй каровы. Пераважна тады, калі пускалі іх на пашу, як у нашай вёсцы кажуць, спутанымі або яшчэ інакш стрыножанымі. А яшчэ іншыя з ланцугом на шыі. Мой субяседнік, той жа Андрэй Пучынскі, успомніў трагічнае здарэнне. Раку хацеў пераехаць фурманкай селянін з суседняй вёскі Плянты. Ён любіў выпіць. Вяртаўся пад вечар дадому. Памыліў плыткі брод з глыбокім ды гразкім і тады ўтапіўся запрэжаны ў воз конь і мужчына, які і намагаўся яго ратаваць.

Над Баброўкай былі і ёсць шырокія страката-квяцістыя сенажаці. Тут прасторная маляўнічая аколіца. Ранняй вясной цвілі жоўтыя лотацi. Летам касцы касілі лугі і ў пагодлівыя дні паветра было настоенае прыемным пахам сена. Лугі касілі летам і восенню. Уборка атавы не кожны год удавалася. Калі прайшлі праліўныя падвосеньскія дажджы, рэчка выступала з берагоў і залівала сенажаці. Скошаную траву вынасілі на драўляных насілках на грудочкі. Дасушвалі на панадворках. Бывала і так, што атава так і паплыла з цячэннем ракі.

Сена з абарогаў забіралі зімой, калі рака і вада на лугах замярзала. Дзеці мелі дзе катацца на каньках. Лёд быў ад Баброўкі да грэблі, якую пабудавалі, каб накіроўваць цячэнне ракі Нараўкі ў бок існуючага ў пачатку мінулага стагоддзя вадзянога млына. Тут на рацэ быў глыбокі стаў, акаймаваны зараснікамі. Над ставам раслі вялікія вольхі. Не было смельчака, які згадзіўся б яго пераплысці з аднаго берага на другі.

Першыя масты і мосцікі цераз раку былі драўляныя і паабапал з балясамі. Тоўстыя палі пад іх забівалі ў дно пры дапамозе гэтак званай «бабы». Старэйшыя людзі ведаюць, як яны выглядалі. Часта летам на мастках моладзь дамаўлялася на вечаровыя сустрэчы ды прастойвала да позняй ночы. На адным з мастоў з бярвенняў я сядаў з вудай ды лавіў плотак і акунёў. Мы лавілі шчупакоў і ментузоў кошыкам або калыскай, у якой нас — калі мы былі малечамі — калыхалі бацькі. Некаторыя вяскоўцы мелі прыхаваныя сеці або невады. Лавіць рыб імі было забаронена. Таму цягнулі сеці і сачкі пад вечар ды далей ад ажыўленай дарогі. Вудзільшчыкаў таксама кантралявалі стражнікі, ці выкупілі яны г. зв. карты вудзільшчыка і якога памеру рыбы ловяць (малых рыб не дазвалялася).

Баброўка жыве ў маіх успамінах і таму, што я з калегамі часта прыходзіў сюды купацца . Аднойчы летам пасля вялікага дажджу ў рэчцы прыбыло шмат вады. Яе ўзровень быў мне па шыю. Я захацеў навучыцца плаваць і навучыўся.

Паўвеку таму Баброўку меліяравалі. Змяніўся не толькі пейзаж і характар навакольнай мясцовасці, змяніўся клімат. Паменшыўся ўзровень вады не толькі ў меліярацыйным рове, на які замянілі Баброўку. Не хапае яе таксама ў калодзежах маіх аднавяскоўцаў. Паменшалі накосы травы на сенажацях. Зніклі шматлікія лугавыя кветкі. Над сенажацямі не чуваць кнігавак. Зараз сяляне пачалі сеяць менш мінеральных угнаенняў на сенажацях. Падчас нечастых невялікіх паводак яны, як гэта бывала, не сплываюць у меліярацыйны роў і ў ім зноў усё смялей і смялей разводзіцца рыба.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ




# Нечаканая сустрэча з героем

Еду ў Лідзбарк-Вармінскі, у будні паўсядзённы дзень. Непасрэднага пасажырскага спалучэння з Беластока туды няма і трэба дабірацца этапамі. Спярша поездам у Кентшын. Злажу ў Кентшыне на перон, а там нечаканасць: на вакзальным будынку апрача польскай назвы горада віднее і яе ранейшая, нямецкая назва Rastenburg, акрыленая з двух бакоў інфармацыяй, што ў Koenigsberg адтуль 102,8, а ў Prostken 92,3 кіламетраў. Калі глянуць на карту Еўропы, то не зважаючы на адлегласць паміж рэйкамі, відаць чыгуначную лінію быццам задуманую для злучэння згаданага Кёнігсберга цераз Прсткі, Берасце і Львоў з Адэсай — такую транс'еўрапейскую між Балтыкай і Чорным морам. Цалкам магчыма, што ўлады ў Берліне ўжо тады думалі пра сваю экспансію на Блізкі Усход, пра чарговы Orient-Express, а вакзальны надпіс у Растэнбургу быў толькі такой ціхай прэлюдыяй...

Знаходжу адпраўны пункт майго чарговага транспарту, аўтобус, а паколькі да яго адпраўлення астаецца амаль гадзіна, выходжу на горад. Выглядае ён інакш ад падобных гарадоў у нашай частцы Беласточчыны — захавалася там шмат будынкаў узведзеных паводле іншых чым у нас архітэктурных стыляў. Горад вельмі чысты, вельмі дагледжаны. Колішнія будынкі, узведзеныя ў час нямецкага там панавання, а захаваліся іх вельмі многа, уражваюць сваёй адметнасцю, сваёй індывідуальнасцю. Крыху жылых блокаў узведзена і ў не так даўні час, але красы гарадскому краявіду яны не прыдаюць, ідуць яны ў нейкі разрэз з закладзеным дызайнам горада. Нават уніяцкая царква, што недалёка вакзала, са сваімі акуратнымі цыбулінкамі выглядае там неяк штучна. Перад гожанькім будынкам польска-нямецкага цэнтра культуры стаіць фігура асла натуральнай велічыні, размаляванага ў такую самую „масць", як і гербавы падляшскі зубр.

Вяртаюся на вакзал, заходжу ў сярэдзіну будынка — там таксама чысцюсенька, працуюць дзве білетныя касы: чыгуначная і аўтобусная. Чакаючых пасажыраў нямнога. У адным з анексаў пачакальні восем стэндаў з дэталёвай інфармацыяй пра гісторыю будавання чыгункі вакол Растэнбурга — на польскай, англійскай і нямецкай мовах. За вакзальным будынкам чатыры паветкі аўтобусных прыпынкаў фірмы Arriva. Той самай фірмы, якая дзейнічае і ў нашым Бельску. Толькі пра бельскі вакзал не прыходзіцца напісаць таго, што пра кентшынскі...

Чарговая перасадка ў Барташыцах. Там вакзал выглядае ўжо зусім інакш, быццам ён быў на тэрыторыі іншай краіны. Чыгуначны транспарт ужо там не працуе, рэйкі пазарасталі пустазеллем, амаль усё шкло ў выхадных павертках на пероны разбітае. Вакзальны будынак шчыльна закрыты. На прыпынкавых раскладах не знаходжу таго пэкаэсаўскага курса, які падказваў інтэрнэт, але ў куточку вакзальнай плошчы заўважаю групку чакаючых пасажыраў; пад'язджае прыватная маршрутка ў Ольштын, акурат цераз Лідзбарк, набіраецца камплект пасажыраў...

Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich з 1883 года так пісаў: „Lidzbark na Warmii, właśc. Licbark, niem. Heilsberg, u Zarańskiego Święta Góra. Mieszk. 5770 przeważnie katolików (14,8% ewang., 2,8% żydów). Miasto założone 1320 roku; dnia 10 czerwca 1807 r. zaszła tu bitwa między Francuzami i Rossyanami, w której Rossyanie zwyciężyli. Znaczniejsze budowle są: pałac biskupi w stylu gotyckim, dawniej zamek krzyżacki, około 1240 zbudowany, w którym od 1243-1772 rezydowali biskupi dyecezyi warmińskiej; kościół katolicki murowany w stylu gotyckim 1315 i kościół ewangielicki, bazylika zbudow. 1823 г." Варта тут дадаць, што з 1766 года вармінскім біскупам у Лідзбарку быў вядомы польскі паэт Ігнацы Красіцкі; служыў там да 1795 года, калі быў пераведзены на пасаду гнезненскага арцыбіскупа...

Дэмаграфічныя паказчыкі Лідзбарка карэнна змяніліся пасля Другой сусветнай вайны. Колішнія жыхары горада пакінулі яго новым пасяленцам. У іх ліку найбольш, вядома, было католікаў і яны пераняў спадчыну ранейшых сваіх аднавернікаў. З'явілася ў Лідзбарку і крыху праваслаўных і гэта ім быў прызначаны былы пратэстанцкі касцёл; сёння гэта царква апосталаў Пятра і Паўла. Інфармацыйны стэнд на яе сцяне: „Kościół stanowi wybitne dzieło architektury protestanckiej na Warmii. Został wybudowany w latach 1818-1823, sfinansowany przez króla pruskiego Fryderyka Wilhelma III. Do budowy kościoła wykorzystano projekt budowli murowanej przygotowany w Wyższej Deputacji Budowlanej w Berlinie, kierowanej ówcześnie przez Karola Fryderyka Schinkla. Uważa się, że projekt kościoła był bezpośrednio inspirowany twórczością Schinkla. W projekcie można dopatrzyć się wyznawanej przez tego architekta idei łączenia historycznych form zaczerpniętych z różnych stylów i epok, w nowatorskie struktury pod względem kompozycji i estetyki". Карл Шынкель запраектаваў мноства адмысловых будынкаў, у іх ліку і цэрквы ў Пачдаме і Пецергофе.

Арыгінальны будынак сённяшняй лідзбарскай праваслаўнай царквы быў узведзены каля двухсот гадоў таму. Але вось згаданы раней велізарны ***pałac biskupi w stylu gotyckim, dawniej zamek krzyżacki*** быў збудаваны ў XIII стагоддзі. Неяк прычапілася да мяне думка, што той замак, як і іншыя замкі ва Усходняй Прусіі, будавалі тагачасныя прымусовыя работнікі, значыць тадышняе карэннае прускае насельніцтва, якое ў выніку такога тагачаснага гулагу і спыніла сваё існаванне, як і шмат якія іншыя плямёны пад уладараннем новых заваёўнікаў.

Ды не цікавасць да гістарычных помнікаў прывяла мяне ў Лідзбарк. На тамашніх савецкіх ваенных могілках сем-

працяг ☞ 10


Грэка-каталіцкая царква ў Лідзбарку


Грэка-каталіцкая царква ў Кентшыне


Праваслаўная царква ў Лідзбарку

9 ☞ працяг

## Нечаканая сустрэча з героем

дзесят гадоў таму спачылі астанкі майго дзядзькі, татавага брата. Могілкі тыя знаходзяцца побач дзейных вайсковых казармаў; каля ўваходнай брамы пабачыў я карціну, ад якой зрабілася гарачавата ў грудзях... На могілкі тыя мала хто заглядае, у каля дваццаці брацкіх магілах спачыла амаль дзве тысячы пакойнікаў. За ўваходам знаходзіцца мемарыяльная табліца, далей брацкія магілы ў двух радах, а на канцы барэльефны помнік воінам. На магілах каля дзесяці індывідуальных намагільных таблічак — адна з іх на латвійскай, адна на беларускай і апошнія на рускай мове. Перад помнікам пад пяць вянкоў са штучных кветак; адзін з іх у колерах Расійскай Федэрацыі, на іншым стужка з рускамоўным надпісам ад школьнікаў...

А перад могілкамі згаданыя казармы; побач увaходнай брамы свежанькія эмблемы тамашняга 9 Вармінскага разведачнага палка. Фрагмент навін з палкавога партала: „W sobotę, 20 czerwca w garnizonie 9 Warmińskiego Pułku Rozpoznawczego, odbyły się uroczystości związane z przyjęciem dziedzictwa tradycji i przyjęciem imienia patrona mjr. Zygmunta SZENDZIELARZA ps. „ŁUPASZKA”. Nowy patron pułku major „Łupaszka” był dowódcą oddziału partyzantów, o której powiadano, że jest brygadą śmierci. Oddział uchodził za najlepiej wyszkolony w całym okręgu wileńskim. „...współcześni różnie oceniają dzieło, jak i osobę samego Łupaszki, lecz nam zwiadowcom szczególnie imponował jego spryt [падкр. А.В.], zmysł dowódczy, działanie w nieznanym terenie, otoczonym ze wszystkich stron wrogiem. Oddział Łupaszki reprezentował to, czym powinien cechować się każdy oddział rozpoznawczy, dlatego z dumą 9 pułk rozpoznawczy przejął jego tradycję...” — powiedział Dowódca pułku płk dypl. Tomasz ŁYSEK”. Такая вось цалкам свежанькая навіна. У партале знаходзіцца таксама апісанне постаці новага патрона жаўнераў. Мы, тут у сябе, маем сваё пра яго ўяўленне, а вось, мяркую, цікава заглянуць у вытрымкі пра яго на сайце нашых разведчыкаў:




„Głównym zadaniem oddziału było likwidowanie funkcjonariuszy NKWD i UBP oraz żołnierzy Armii Czerwonej, WP i KBW. (...) Komuniści podtrzymywali w raportach, że partyzanci „Łupaszki” byli bezdusznymi mordercami. (...) Rozprawie przewodniczył mjr Mieczysław Widaj, o którym mówiono, że zostawił za sobą mnóstwo krzyży. „Łupaszkę” bronił adwokat z urzędu Edward Rettinger. Szendzielarz zeznawał w drugim i trzecim dniu rozprawy, która zakończyła się 2 listopada. Spośród postawionych mu zarzutów „Łupaszka” przyznał się, że był członkiem nielegalnej organizacji, prowadził walki z partyzantami sowieckimi i uważał Sowietów za stronę atakującą. Potwierdził także, że jego brygady atakowały funkcjonariuszy UBP, NKWD, PPR i MO, zaznaczając przy tym, że wykonywał rozkazy przełożonych. Zaprzeczył współpracy z Niemcami”. Магчыма, што бравы падпольнік не супрацоўнічаў з немцамі, але ж ваяваў ён у тым жа напрамку, супраць тых жа саміх сіл, што і яны, у тым ліку супраць польскіх жаўнераў. І па сутнасці быў нямецкім альянтам у змаганні супраць чырвонаармейцаў і іх саюзнікаў, якія завалілі палову Усходняй Прусіі для Польшчы. Дзе знаходзіцца полк, spryt[nie] удастоены імені новага героя...

Героі патрэбныя для нацыянальнай ці дзяржаўнай міфалогіі. Балюча, што для гэтай мэты не ўдалося нашым міфатворцам знайсці асобы з адназначнай станоўчай характарыстыкай. Але калі так разглянуцца навокал, напрыклад на ўсход, дык міфалагічная карціна там зусім не лепшая. Хто ведае, можа без герояў такога складу грамадзянская міфалогія была б і зусім немагчымай — можа такія героі папросту неабходныя.

З цяжкаю душою пабрыў я ў напрамку вакзала. Здалёк паказаўся каўтун няскошанай травы — эмблема зарастаючай чыгуначнай станцыі. Перад чыгуначным вакзалам, як і, здаецца, ва ўсіх былых нямецкіх гарадах, аўтобусныя стаянкі. На іх было даволі пуста, а на адпраўных табліцах не відней ніводзін курс у напрамку Ольштына. Толькі ў вугалку вакзальнай плошчы чакала некалькі асоб; неўзабаве пад'ехала туды прыватная маршрутка...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**




Тэма сталінскіх рэпрэсій у Беларусі знаходзіцца на ўзбочы грамадскіх зацікаўленняў. У адрозненні ад іншых гістарычных тэм, такіх як Другая сусветная вайна, яна не лічыцца гістарычным этапам, які прадвызначыў не толькі ходу гісторыі, але і значна адбіўся на менталітэце савецкіх, а потым беларускіх грамадзян. Праўда, нягледзячы на фактычнае дзяржаўнае замоўчванне сталінскіх рэпрэсій, грамадскія актывісты не пакідаюць гэтай тэмы без увагі.

У студзені 2010 года „Ніва” пісала пра сайт „Пакаянне”, які быў своеасаблівым віртуальным рэквіемам бязвінна загінуўшым беларусам у гады сталінскага цемрашальства. Цяпер гэтага сайта ўжо няма. Невядома, што стала прычынай яго закрыцця, але, як кажуць, святое месца пустым не бывае. У сусветным Сеціве адкрыўся так званы „Віртуальны музей савецкіх рэпрэсій у Беларусі”, які месціцца па адрасе **http://represii.net**.

Нягледзячы на тое, што сайт прысвечаны даволі змрочнай тэме, ён, у адрозненні ад свайго папярэдніка, выглядае больш прывабна па меншай меры сваёй каляровай гамай. На ім пераважае шэрае і светла-шэрае выяўленне. Будова сайта адлюстроўвае тэндэнцыі, якія з'явіліся не так даўно, але ўжо пачынаюць пераважаць у сайтабудаўніцтве — усе рубрыкі падаюцца не праз выйсці, размешчаныя ўверсе ці злева, а ідуць зверху ўніз. Разам з тым асобныя выйсці на рубрыкі знаходзяцца і ўверсе выяўлення, дублюючы тое, што ўнізе.

Што ж тычыцца ідэйнай накіраванасці сайта, то яна вызначана ў рубрыцы „Музей”, якая ідзе першай. „Савецкі Саюз можна ўзгадваць па-рознаму: можна захапляцца дасягненнямі індустрыялізацыі, святкаваць перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне, радавацца першаму палёту чалавека ў космас... але ёсць і іншая гісторыя — гісторыя людзей, для каго жыццё ў СССР стала трагедыяй”, — распавядаюць стваральнікі сайта.

Працяг тлумачэння ідэйнага складніка сайта можна знайсці на старонцы „Пра праект”. „У Беларусі ахвярамі рэпрэсій сталі прадстаўнікі ўсіх пластоў грамадства, пачынаючы з культурных і палітычных элітаў, якіх абвінавачвалі ў буржуазным нацыяналізме, і сканчаючы рэпрэсіямі супраць сялян у перыяд калектывізацыі. Аднак у нашай краіне дагэтуль не аддадзеная даніна памяці ахвярам рэпрэсій, гісторыя рэпрэсій у БССР не дастаткова асветленая ў гістарыяграфіі, у сучаснай Беларусі няма ні агульнанацыянальнага музея, ні асобнай экспазіцыі, якая б комплексна і аб'ектыўна распавядала пра гісторыю савецкіх рэпрэсій”, — распавядаецца там і падкрэсліваецца, што асноўнай мэтай ініцыятыўнай групы „Віртуальнага музея” з'яўляецца захаванне памяці пра савецкія рэпрэсіі.

Сайт змяшчае расповеды сямі чалавек, якія трапілі пад сталінскую машыну катаванняў. Аб гэтым ходзіць на старонцы „Лёсы”. На старонцы „Публікацыі” можна азнаёміцца з навуковымі тэкстамі, прысвечанымі савецкім рэпрэсіям. Уладальнікі сайта прапануюць наведвальнікам таксама дасылаць свае тэксты па данай тэме.

„Віртуальны музей” прадстаўляе магчымасць знайсці сярод рэпрэсаваных сваіх блізкіх. Для гэтага трэба ўвесці прозвішча на беларускай мове ў спецыяльнае акенца.

Да ўсяго іншага сайт мае, акрамя беларускай, рускую і англійскую версіі. Праўда, па-англійску можна толькі прачытаць пра праект.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



Кароткі век паэта

# 95 гадоў з дня смерці Алеся Гаруна

Беларускі паэт, празаік, публіцыст, вядомы дзеяч беларускага Адраджэння пачатку XX стагоддзя Алесь Гарун нарадзіўся 11 сакавіка 1887 году ў фальварку Новы Двор (цяпер у межах Мінска) у сям'і чорнарабочага. Сапраўднае яго імя Аляксандр Прушынскі. У 1897 г. будучы паэт скончыў гарадскую прыходскую вучэльню ў Мінску, далей вучыўся ў рамесніцкай вучэльні. З 1902 г. працаваў сталяром у розных майстэрнях і на мэблевай фабрыцы ў Мінску.

У 1904 г. Гарун уступіў у партыю эсэраў і актыўна ўключыўся ў падпольную рэвалюцыйную дзейнасць. У 1907 г. арыштаваны. У лютым 1908 г. Віленская судовая палата прыгаварыла Алеся Гаруна да чатырох гадоў астрога, як непаўналетняга. Аднак пракурор апратэставаў пастанову судовай палаты і ў ліпені таго ж года ён быў асуджаны на катаргу. 6 лістапада 1908 г. катарга была заменена на дзевяцігадовую высылку ў Сібір. Высылку паэт адбываў у Кірэнскім павеце Іркуцкай губерні, дзе займаўся сталярнай і цяслярнай працай. У 1914 г. працаваў на Лене вадалівам. З 1915 г. — на залатых капальнях у Бадайбо. Якраз тады надышла Лютаўская рэвалюцыя 1917 г. і Гарун быў абраны дэпутатам Савета Ленінскай золатапрамысловай акругі.

У Мінск Гарун вярнуўся ў верасні 1917 г. У 1918 г., у час нямецкай акупацыі, рэдагаваў газету «Беларускі шлях». У 1919 г., пасля заняцця Мінска палякамі, стаў сябрам Беларускай вайсковай камісіі. У жніўні 1919 г. узначаліў Часовы беларускі нацыянальны камітэт, у які ўваходзілі радныя Рады БНР.

У ліпені 1920 г., пасля паразы палякаў на Бярэзіне, БВК з'ехала з Мінска ў Ваўкавыск. Там Алесь Гарун разам з сябрамі БВК з'еў вішняў, якія прадавалі мясцовыя сяляне, пасля выпіў некалькі кубкаў халоднай вады. Увечары яму стала блага. Лекар вызначыў крываўку і параіў перадаць хворага на бліжэйшы санітарны цягнік. Францішак Кушаль і Антон Аўсянік завезлі на фурманцы Гаруна на станцыю. Санітарны цягнік вывез яго ў Кракаў.

Увосень 1920 г. БВК, якая знаходзілася ў Лодзі, атрымала польскі ўрадавы ліст з вайсковага шпіталя, у якім паведамлялася, што Аляксандр Прушынскі памёр ад дызентэрыі і падавалася дакладнае месца яго пахавання. Памёр ён 28 ліпеня 1920 г. Пахаваны ў Кракаве на вайсковых Ракавіцкіх могілках. БВК выправіла ў Кракаў Паўліну Мядзёлку, якая атрымала ў Кракаўскім вайсковым шпіталі ўсю інфармацыю і бачыла месца магілы Гаруна, якая была пазначана простым драўляным крыжыкам з таблічкай.

У 1947 г. у СССР Алесь Гарун быў сярод іншых беларускіх літаратараў абвешчаны «здраднікам беларускаму народу», да 1980-х гадоў яго творы не выдаваліся.

Пісаць Гарун пачаў з дзяцінства. У друку дэбютаваў вершам «Маці-Беларусі» ў 1907 г. у «Нашай ніве». Шмат вершаў ды апавяданняў публікавалася ў газетах «Наша ніва», «Беларус», «Вольная Беларусь», у калектыўных зборніках і календарах. Атрымалі яны станоўчыя водгукі з боку Максіма Багдановіча і Янкі Купалы. Выйшлі зборнікі паэзіі «Матчын дар» (меўся быць выдадзены ў Вільні ў 1914 г., але з-за вайны выйшаў толькі ў 1918 г.; факсімільнае выданне было ў 1988 г.) і «Жывыя казкі» (1920). Выступаў у друку як публіцыст.

У 1980-я гады закінутую магілу на Ракавіцкіх могілках адшукаў беластоцкі гісторык Алег Латышонак. 24 верасня 1988 г. на месцы пахавання Гаруна быў усталяваны надмагільны помнік. У Мінску адна з вуліц названа яго імем.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Свет маляваны іголкай



На Купаллі ў Нарве падыходжу да ларка з акуратнымі вышыўкамі. Гаспадыняй тут Анна Кузьма з Міхалова; разам з ёю Ірэна Палецкая. Давядваюся, што спадарыня Анна з'яўляецца чытачкай нашага штотыднёвіка. Цікаўлюся, як даўно стала яна чытаць „Ніву”.

— З самага пачатку, бо тата мой падпісваўся на „Ніву”. І калі я стала вывучаць беларускую мову, бадай у чацвёртым класе, то і палюбіла наш тыднёвік.

— Вы родам з Міхалова?

— Не, з Сушчы, а ў Міхалова выйшла замуж, у 1966 годзе. І „Ніву” купляю па сённяшні дзень. Было так, што купляла час ад часу, а цяпер штотыдзень.

— А, вось, гэтыя вышыванкі: усе яны Вашыя?

— Мае, я іх люблю рабіць, вышываю іх з дзевяці гадоў. Не было тады такіх нітак, як цяпер, не было такіх канваў — магчыма, што недзе і былі, але не ў нас на вёсцы. А ніці былі, аставаліся, калі хтось ткаў дываны, нейкі воўны кусочак ці трыкатажу; і да сёння тады вышытыя братачкі захаваліся.

— А ў каго Вы падглядалі вышыўку: у мамы ці ў каго іншага?

— Мама мая мела блузку, а бабуля фартух і блузку вышытыя па канве. А мне, малому дзіцяці, было цікава, што гэта такое — па канве. Мне патлумачылі, як гэта робіцца і так я стала вышываць. Вельмі люблю гэтае рукадзелле.

— У Вас бежнікі...

— Абрусы, бежнікі, сурвэткі, маю таксама іконы — усё люблю вышываць.

— То і іконы вышываеце?

— То ж бачыце: тут тры іконы.

— А як жа такую вытанчаную ікону вышыць?

— Вельмі проста: ёсць узор, там ёсць абазначэнні нумароў ніцей, такіх нумароў як на мотачках, бярэцца гэта ўсё і вышываецца.

— А адкуль узоры?

— А ёсць „Hafty Polskie” ў крамах, толькі ў іх вельмі мала іконаў. А так то на рынку ад рускіх купляю ўзоры ікон. Цяпер яны рэдка да нас прыязджаюць, але яшчэ можна ўзоры здабыць. І вышываць буду, дакуль буду жыць, бо вельмі люблю гэтую работу.

— Мне вельмі падабаюцца гэтыя Вашыя вышыўкі на белым палатне.

— Усё харошае, хто гэта любіць — рукадзелля брыдкага няма. А тут, у Нарве, нас прыемна ўразілі, бо далі такую выгадную палатку, адно толькі надвор'е не вельмі спрыяе, але на гэта мы не маем уплыву.

— З гэтым не пашанцавала, бо калі б была пагода, то і людзей сабралася б шмат. Крыху прыйшло народу, але яны цяпер аглядаюць змаганні касцоў.

— Усё было б добра, толькі шкада, што ўсё гэта занікае, маладыя людзі за гэта не бяруцца.

— Бо маюць гатовае.

— Але такога ў крамах не купляць. Маладыя людзі заняты цяпер камп'ютарамі ці мабільнікамі.

— Свет змяніўся і новае пакаленне займаецца іншымі справамі, чым калісь.

— Але ўсё ж такі і „Ніва” магла б нешта зрабіць дзеля гэтай справы: чаму вы не друкуеце ўзораў для гафтавання? Тады і шмат больш людзей яе чытала б...

— Магчыма, толькі сумняваюся, ці ў рэдакцыі ёсць адпаведныя спецыялісты па вышыўцы, якія маглі б кампетэнтна настаўляць спрактыкаваных майстроў рукадзелля. Дзякую Вам за заўвагу і за змястоўную размову ды жадаю ўсяго Вам добрага.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# ВЕЧАРЫНА ПАМЯЦІ ТАМАРЫ САЛАНЕВІЧ

Вечарам 18 ліпеня гэтага года ў Гміннай галерэі ў Нараўцы адбылася вечарына, прысвечаная памяці нараўчанкі Тамары Саланевіч (з нагоды 15-й гадавіны смерці кінарэжысёркі). Сабраліся перш-наперш Тамарыны сябры і сімпатыкі з Нараўкі, Грушак, Новага Ляўкова, Семяноўкі, Скупава і са Старога Ляўкова. Сярод іх былі Пётр Нестаровіч, блізкі сябра Тамары і дзве акцёркі г.зв. „натуршчыцы” (не мелі яны прафесійнай падрыхтоўкі), якія выступілі ў кінафільме „Крэсавая балада” („Ballada kresowa”). На вечарыну прыехалі журналісты Радыё Рацыя, штотыднёвіка „Ніва”, двухтыднёвіка „Падляшскія весці” і часопіса „Над Нараўкай”.

Прысутныя цёпла і сардэчна ўспаміналі Тамару, агледзелі два кінафільмы



пад загалоўкам „Тамара” Катажыны Паплаўскай і „Крэсавая балада” Тамары Саланевіч. Варта дадаць, што Т. Саланевіч зняла больш дваццаці кінафільмаў, між іншым, „Возера поўнае слёз”, „Ці чуеш як плача зямля...”, „Жэртва”, „З глыбіні сэрца”, „Матачнік” („Лясныя нетры”), „Горад на ўскраіне пушчы”, „Візантыя ў Гайнаўцы”, „Крык пушчы”, „Мелодыя душы” і „Нараўскі трыпціх”. Пасля дэманстрацыі кінафільмаў слухалі ігры на гітарах Пятра Карпюка і Кшыштафа Паўлючука.

На заканчэнне быў салодкі пачастунак ды кава і гарбата для ўсіх. Старшыня Таварыства сяброў Нараўчанскай зямлі Тамара Крышань сказала, што Тамару Саланевіч будзем успамінаць яшчэ не на адной вечарыне.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. кустовая калючая ягадная расліна, падобная на маліну = 23 _ 26 _ 27 _ 28 _ 29 _;
2. у бярозы белая = 22 _ 21 _ 5 _ 6 _;
3. антонім верху = 2 _ 1 _ 7 _;
4. грузінскі порт = 17 _ 16 _ 19 _ 18 _;
5. грашовы дакумент у... чэкіста = 12 _ 11 _ 13 _;
6. форменнае паліто = 3 _ 4 _ 8 _ 9 _ 24 _ 20 _;
7. мангольская хата = 25 _ 10 _ 15 _ 14 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | | | |
| | | | | | | 5 | 6 | 7 |
| | | 8 | 9 | | | | | |
| | | | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | | | | | | | | |
| | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 28 нумара**

Дзеяслоў, Луга, вайна, Польшча, ток, Амур, аналітыка, юнкер, Іна, Іўе, грыб, Пяндж, Друць, былое.

Рашэнне: Дзе гультай на полі, там ураджаю не быць ніколі.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# 02.08 — 08.08

**(22.03. — 20.04.)** 2-8.08. будзеш дзейнічаць паспяхова, адважна, дысцыплінавана і трывала. Дасягнеш усіх мэт, справішся з перашкодамі. Увесь месяц ты пераможца. Хтось схоча намяшаць паміж табой і тваім партнёрам — пільнуйся! Добрая форма. Жнівень — добры час на далёкія планы. З 7.08. (да 27.08.) адна асоба, па якой ты гэтага не спадзяешся, паспрыяе табе і ахвяруе дапамогу ў вельмі важнай справе — абавязкова пакарыстайся.

**(21.04. — 21.05.)** 3-7.08. не пачынай новага. У трывалых парах можа быць бурлівы месяц — перачакай. Дробныя спрэчкі і сярод сяброў. Добры час на фізічную актыўнасць, але не сядай на дыеты. Выконвай пільна свае абавязкі — час адраблення хвастоў і папраўлення памылак, не перайма́йся. 7-27.08. твае прыёмы будуць абдуманыя. Маеш шанц узяцца за выклікі, якіх звычайна баяўся б. Увесь месяц ашчаджвай і пільнуйся ад злодзеяў.

**(22.05. — 22.06.)** Найлепшыя задумы. Будзеш пабуджаны да дзеяння і рэалізавання нават шалёных ідэй. Маеш шанц пазнаёміцца з кімсьці вельмі цікавым. 4-8.08. не паддавайся мінорным настроям, сітуацыя сама высвятліцца. 7-27.08. акажацца, што твае старанні не пайшлі дарма і будзеш ад гэтага чэрпаць немалыя карысці. Добры час шукаць працу ўвесь жнівень.

**(23.06. — 23.07.)** 1-5.08. не кідайся ў глыбокую ваду; хтосьці схоча падцяць табе крылы. 5-9.08. вельмі канфліктныя дні. Будзь вельмі разважлівым у размове. Ажыўленне ў сямейных справах, будуць неадкладныя справы для высвятлення паміж сваякамі. Не адмаўляйся ад дапамогі. Нічога не прапускай у здароўі. Досыць добрая псіхічная форма, добра пераняcеш дробныя праблемы. Вельмі сачы за сваімі фінансамі.

**(24.07. — 23.08.)** Пазнаёмішся з кімсьці цікавым, але мусіш узяць справы ў свае рукі. Выдатны адпачынак з каханай асобай. У першай палове жніўня адчуеш стому, галаўныя болі і праблемы са страваваннем. Адпачывай. Неабавязкова пра ўсё расказвай Быку. Шалі дадуць табе добрую параду.

**(24.08. — 23.09.)** Слухай партнёра і будзь памяркоўны, а ўсё вернецца да нормы. Цяпер ты ўсё хочаш рабіць паспешліва, не пераносячы крыўкі ані абмежаванняў, а станеш перад тым, чаго найбольш не любіш. Як найбольш адпачывай. Ад 7 аж да 27.08. — добры час для наладжвання новых знаёмстваў.

**(24.09. — 23.10.)** Найлепшы час на сустрэчы з сябрамі. Будзеце знакаміта гуляць, перажывеш фантастычную прыгоду. Навучыся разгружаць схаваную злосць, тады пазбегнеш непатрэбных канфліктаў і лепш сябе адчуеш. Не прамоўчвай праблемаў, бо вернуцца ўдвайне. Размаўляй! 3-7.08. не раскашэльвайся на пакупках, бо сцягнеш на сябе праблемы.

**(24.10. — 22.11.)** 4-8.08. будзеш памяркоўны для сваіх блізкіх, дакажаш сілу сваіх пачуццяў. У пастаянных парах спакой. Спалучаючая вас сувязь яшчэ больш узмоцніцца і будзеце разумець адзін аднаго без слоў. Блізкія знаёмыя цябе не падвядуць. Не ўключайся ў справы, якіх не ведаеш. Лішак энергіі разгружай актыўнасцю, але не фарсіруйся і не паказвайся. Не сядай на радыкальную дыету. На працы дабʼешся свайго. 2-6.08. — вельмі ўдала ў фінансах!

**(23.11. — 22.12.)** 2-6.08. цяжка будзе табе дастасавацца да абмежаванняў. Добры настрой цябе не пакіне, паявяцца таксама шматлікія прыемнасці. Поўнымі жменямі карыстай з жыцця, трымай вочы шырока адкрытыя. Але паводзь сябе прыстойна! У першыя дні жніўня не ўсе планы зрэалізуеш. Дбай аб свой кровазварот, асабліва ў спёку.

**(23.12. — 20.01.)** 4-8.08. лёгка парвеш з руцінай у кампанейскіх кантактах. Увядзеш усе змены без радыкальных вырашэнняў. Добры момант на карпатлівую працу. Не рабоце штораз лепш. У пары старайся не дамінаваць. Энергія, моцная воля і здольнасці. Хаця патрабаванні кіраўніцтва стомяць цябе.

**(21.01. — 19.02.)** Маеш шанц пазнаёміцца з кімсьці вельмі цікавым. Будзе так як любіш, нестэрэатыпна. Пры нагодзе адкрыюцца перад табою новыя магчымасці. Добрыя кантакты з дзецьмі. Але дзве першыя дэкады будзе табе штосьці дакучаць — а то пячонка, а то кішкі. Не пераядайся. Не выдавай зашмат, бо будуць выдаткі ў верасні. 5-9.08. зменнасць настрою.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш мець сто задум на хвіліну. Праўда, не ўсе зрэалізуеш, але справішся з неспадзяванымі праблемамі. На тваёй дарозе стане вельмі каштоўная нясмелая асоба. Добры час у сям'і і з далёкімі сваякамі. У пачуццях турботы, кіруйся больш розумам, не сэрцам. 4-6.08. спакойна ідзі на аперацыю, медычныя працэдуры.

Агата АРЛЯНСКАЯ

# У палескай глыбінцы (7)



Пані, а чаму сама спала? Трэба было мяне паклікаць! — загаварыў на добры дзень дзядзька ў сінім фірменным адзенні. Мужык размашыста махаў мятлой. Ён наводзіў парадкі вакол гасцініцы «Вадаграй», у якой да поўначы спраўлялі вяселле. Хоць у адказ я злосна сцягнула бровы, дзядзька не згубіў упэўненасці:

— *Дужэ е што шкодоваты!* — падморгнуў мне.

Неяк так з ходу, машынальна сыграла я ролю напышлівай «польскай пані». Мясцовыя жанчыны на падобныя прывітанні рагочуць. Ніхто ў галаву не бярэ эратычных падтэкстаў, не крыўдуе. На самой справе ідзе пра другое. Важна, каб падтрымаць жывую размову, гумар.

Хоць усё гэта я ведала з колішняга вясковага жыцця, тут не ўмела адбарабаніць па-панібрацку.

* * *

У Шацку найбольш запамяталіся могілкі з пранізлівым крыкам вароніных грамад. У нядзелю, пасля поўдня, калі завітала я ў гэтую азёрна-палескую жамчужыну, то-бок мясціну, па двух баках пасёлка грымела вясельная музыка. На маё здзіўленне цэнтральная вуліца «50 гадоў Перамогі» была абязлюджана. У першую хвіліну мне падумалася: «Ці не пераехала я мяжы з Беларуссю?» Палова аўтамабіляў на стаянках мела беларускія нумары. Каб распытацца пра начлежныя месцы, я зайшла ў сярэдзіну будкі, пазначанай надпісам «Сувеніры». Заклапочаныя жанчыны за прылаўкам нават не прыкмецілі майго ўваходу. Яны далей гаварылі пра буракі і цыбулю, наракалі на засуху.

— Каб толькі голаду не было, — паўтаралі і горка ўздыхалі.

На паліцах, замест спадзяваных сувеніраў, царыла разнаколернае кітайскае шмоцце, у другой частцы гандлявалі падручнікамі і прыладамі для школы.

— Можа дастану даведнік пра Шацкія азёры?

— Што, што?

— То можа падкажаце, якія тут у наваколлі атракцыёны?

Апошняе пытанне не прыставала да часу — усе атракцыёны Шацка адносіліся да турыстычнага сезона, які цягнуўся ад паловы чэрвеня да паловы жніўня. Тады ў мястэчку, дзень і ноч сустракалі гарадскіх турыстаў, прадавалі ім дровы, парубаныя на палены (пад шашлыкі), хатнія пончыкі, печаную і вэнджаную рыбу, сабраныя ў лесе чарніцы і лісічкі, духмяную, павязаную ў пучочкі багну, каб праганяць моль, мёд, вышыванкі.

І зараз, каб не адправіць мяне з нічым, жанчыны параілі:

— Можа пад'едзьце ў манастыр, у Свіцязь?

— Гэта далёка?

— Пяць кіламетраў будзе.

Дарогі, якімі я дабіралася ў Шацк, атуляў лес. У самым раёне знаходзілася за трыццаць азёр, частка з якіх была схаваная за трыснягом, дрыгвой, лесам. Здавалася, тут як нідзе ідэальнае месца для дзікай звярыны. Мне вельмі хацелася пяшком схадзіць у Свіцязь і я абачліва спытала:

— А ваўкі ў вас ёсць?

У адказ пачуўся іранічны смех, які гаварыў больш-менш такое: *Захацелася бабе мёду!*

* * *

Так як ніколі хацелася мне чагосьці дзіка-салодкага. Пабыўка ў Ковелі расстроіла нервы, прыгнятала. У памяці застраглі воблікі жанчын, якія непрысутным зрокам глядзелі дзесьці ў нязведаную даль. Выбітыя з трансу, успыхвалі агрэсіяй. Усе наракалі на абрэзаныя ў два разы зарплаты. Гэта быў вынік катастрафічнага падзення грыўны. Настаўнікі, пенсіянеры, працаўнікі адміністрацыі гатэляў зараз зараблялі нецэлыя пяцьдзясят долараў. Каб звесці канцы з канцамі кожны, хто меў кавалак зямлі, вырошчваў гародніну. Але тут таксама не шанцавала. Вясновая засуха не абяцала спадзяванага ўраджаю і наклікала самы вялікі ўкраінскі жах — прывід голаду. Памяць галадамору, які ўспыхнуў у 1931-1932 гадах, ад якога памерла ад 2 да 7 мільёнаў грамадзян, далей заставалася недастаткова асветленай, нацыянальнай траўмай. Хоць я з усіх сіл старалася трымаць фасон, пад уплывам паўсюдных нараканняў, жабракоў, якія на вакзалах хапалі за рукі, прыдзірліва-рамантычных злачынцаў і недаваранных страў у буфеце, пачала губляць аптымізм. Мяне здзіўляла наколькі хутка чалавек паддаецца атмасферы месца. Разам з падзеннем настрою, падкрадалася прастуда, мучыў кашаль, свярбела скура. Я разумела, што ў прыгнёце і хваробе нельга перціся ў далейшае падарожжа. Мой дэпрэсіўны настрой дэфармаваў бы пабачаныя па дарозе вобразы, адпіхваў бы сураздмоўцаў або наклікаў бы яшчэ большую бяду на галаву...



Мястэчка Шацк явілася адпаведным месцам дзеля рэвіталізацыі духу. Паводле мясцовых, назва абазначала нешта «найпрыгажэйшае».

* * *

Ад спадзяванняў і здагадак я ледзь не папала пад фурманку, якая каціла сярэдзінай вуліцы Тараса Шаўчэнкі. Шацк, хоць афіцыйна лічыцца горадам, далей застаецца хаатычнай рыбацкай вёскай, раскінутай паміж сямю азёрамі. На панадворках, ля нізкіх хатак пад шыфернымі дахамі, хадзілі козы, гусі, куры, індыкі, цацаркі. Нават размаляваныя на брамах і шчытах хатак лебедзі і сонейкі, выглядалі як жывыя. Не менш жывой здалася мне назва гасцініцы «Вадаграй» — месца дрыжала ад рытмічнай музыкі і вясельнага закалоту. На шчасце, у гатэлі былі вольныя нумары. Я зняла пакойчык за адзінаццаць долараў і ад шчасця грымнула на ложак.

— *Галю, моя Галю, дай води напиться, ти ж така хороша, дай хоч подивиться...* — гучала праз прыадкрытае акно ў маім пакойчыку.

Вясельныя песні жыўцом напаміналі канцэрт пажаданняў на Радыё Рацыя. Шацк, калі азірнуцца ў глыб вякоў, меў больш супольнага з Беластокам, чым з Кіевам. Мясціна набыла значэнне напрыканцы васямнаццатага стагоддзя, дзякуючы гетману Францішку Ксаверыю Браніцкаму. Галоўная сядзіба графа знаходзілася ў недалёкім Любомлі. Шацк выконваў ролю летняй сядзібы, як наша Харошча. Верагодна, — думала я вылежваючыся ў двухспальным ложку, — ці на ідылічную «найпрыгажэйшасць» Шацка не спрацаваў падляшскі аналаг. Яшчэ за часоў Ягайлы, калі ў навакольных лясах каралеўская дружына палявала на дзічыну, гэтая рыбацкая мясціна, прасякнутая вострым пахам сушаных рыбы, называлася «Шэчко». З неславянскіх назваў па сённяшні дзень тут асталіся Свіцязь, Пульмо, Віліца, Пермут, Прыпяць... Ніхто не ўмеў адназначна паясніць іх сэнс. Мяне здзівіла яшчэ адна нечаканасць — вада ў кране пахла як Балтыйскае мора.

* * *

Калі ў рэстаране на нізе сталі іграць казацкія маршы, я падарвалася на ногі, рашыла падзейнічаць. Трэба было абмеркаваць план далейшага падарожжа, схадзіць на аўтавакзал. Шэры бетонны будынак знаходзіўся ў канцы вуліцы «Пяцьдзясят гадоў Перамогі», далей ішла дарога на Бярэсце.

— Колькі аўтобусаў ходзіць у Бярэсце? — спытала я ў касіркі за мініяцюрным акенцам.

— Раней ездзілі два аўтобусы, а зараз не скажу...

— Чаму?

— Бо можа быць, можа не быць, — жанчына, каб кампенсаваць прыкрую навіну, бліснула залатой усмешкай.

— Ад чаго гэта залежыць?

— Калі назбіраецца адпаведная колькасць пасажыраў, тады аўтобус адпраўляецца ў дарогу. А зараз, ведаеце, людзі збяднелі. Няма за што ў госці паехаць...

Апошняя вестка здалася цэннай, паколькі шмат навакольнага народу ездзіла падзарабіць у Беларусь.

— Тыя, што ездзяць на працу, маюць свае машыны, — пачула я за акенцам.

— А вы бачылі, колькі ў Шацку машын на беларускіх нумарах?

Я не ведала што думаць. Тая колькасць «беларускіх» машын, нават калі ўлічыць найбольшае беспрацоўе, выглядала перабольшанай. І тут спадарыня ў акенцы, хоць адзінока дзяжурыла на абязлюджаным аўтавакзале, аказалася найлепш паінфармаванай асобай. Я не мела сумненняў: у Шацку ўсе пра ўсіх усё ведалі.

— Ведаеце, — талкавала мне праз акенца касірка, — сёння многа людзей з Беларусі прыехала на вяселлі. Тут кругом усе сваякі. І можа хто яшчэ адтуль прыехаў да нас за прадуктамі, па мяса, па гарэлку, па туалетную паперу.

Для маёй субяседніцы не існавала ніякіх перашкод звязаных з перасячэннем мяжы, іншамоўем. Рэспубліка Беларусь явілася ёй даступнай, сваяцкай краінай. Усё адмянілася, калі я спытала пра прыгранічныя сёлы, распаложаныя ў суседнім раёне, нейкія дваццаць-трыццаць кіламетраў на паўночны-ўсход ад Шацка. У той бок, з-за балот, не было пракладзенай непасрэднай дарогі. Гэтыя мясціны для маёй субяседніцы здаваліся касмічна адлеглымі і дзікімі, чужымі.

— Ну, перастаньце! Не трэба туды ехаць, — горача пераконвала мяне цётка. — Там забытыя вёскі. Ніхто туды не ездзіць. Там нічога няма...

* * *

Кабеціна нарабіла мне смаку. Яе антырэкамендацыя падзейнічала як найбольшая рэклама. Я сама думала беларускім аналагам — «забытыя» сёлы явіліся мне адміраючымі мясцінамі, пазначанымі роспаччу і шаленствам.

Але пакуль, я павярнула на мясцовыя могілкі. Некраполія заяўляла пра сябе ўжо здалёк. Адтуль даносіўся пранізлівы крык гракоў, якіх у народзе памылкова завуць варонамі. Штосьці такое памятала я з далёкага мінулага, калі на нашых вясковых могілках раслі дубы, сосны, арэшнік і ясені, рэдкія віды праслін і кветак, вакол якіх кружылі рэдкія віды матылёў. Цудоўны эндэмізм могілак ахоўвалі павер'і. Кожная сарваная раслінка магла пашкодзіць, наклікаць хваробы. Па такіх няпісаных правілах у высі на дрэвах знаходзіліся калоніі гракоў. Іх пранізлівы крык палохаў і наклікаў роздумы. Раз напамінаў ён дзіцячы плач, то зноў смех і грубую сварку, часам шаманскі шэпт і хрып. Усё разам складала гукавую сцежку да аповеду пра замагільнае жыццё родзічаў. Смерць у такім месцы здавалася толькі ўмоўным пераходам. Тое ж самае я чула і бачыла ў Шацку. Ды яшчэ «музыка» могільніка дзіўна пераклікалася з вясельнымі рамансамі і маршамі, якія грымелі над мястэчкам. Спалучэнне дзейнічала як жывая метафара сучаснай Украіны, калі адначасова адны паміралі на вайне, іншыя жаніліся ды спешна працягвалі жыццё... Могілкі прыцягвалі яшчэ густоўнай разнаколернасцю. Блакітныя помнікі аздаблялі вышываныя ручнікі і пластмасавыя кветкі. Я хадзіла па могілках і, замест страху, адчувала святочную ўзрушанасць. Прыгадаўся нават Купала, які ў сваёй «Спадчыне» ўвекавечыў «Крык вароніных грамад на могілкавым кладзьбішчы» як унушальны брэнд роднага краю...

За плотам могільніка знаходзіліся дамы, гулялі дзеткі, пасвіліся коні. Тут якраз найбольш прамаўляў сімбіёз свету жывых і памерлых. Зачараваная «гукавой сцежкай» з могілак, я сама трапіла ў разгар вяселля, якое адбывалася ў маёй гасцініцы. Вясельнікі якраз стварылі круг для маладой пары. У вочы кінуўся іх маладзенькі ўзрост і прыгожасць. Чарнавокая салістка, пад акампанемент гармоніка і скрыпкі, выспеўвала шчымлівую песню пра маму. Вясельныя цёткі ў хустках, якія парассядаліся на лавачках, ківалі са зразуменнем галовамі і ўціралі слёзы...

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960